
Фэст здароўя 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Моўная русіфікацыя 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 38 (3097) Год LX | Беласток, 20 верасня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# Кірмаш з Падляшшам у куце

Прывітанне маршалка Башкі, справа Уладзімір Краўцоў

Хоць на амаль дваццаць працэнтаў знізіліся сёлета заходнія інвестыцыі на Гродзеншчыне, гэты рэгіён у Беларусі мае адзін з найбуйнейшых патэнцыялаў развіцця. Несумненна, гэта таксама дзякуючы прыгранічнаму распалажэнню. Адным са стымулаў, якія падмацоўваюць яе эканамічнае развіццё, але і ўсяго рэгіёна таксама на польскім баку, мае быць у прынцыпе Рэспубліканская ўніверсальная выстаўка-кірмаш «Еўрарэгіён Нёман-2014», якой сямнаццаты выпуск у Гродне якраз адбыўся. Суправаджаў яе яшчэ Міжнародны інвестыцыйны форум пад лозунгам «Гродзеншчына — на скрыжаванні граніц». Арганізатары стэнда Падляшскага ваяводства пералажылі некалькі няўдач, а самастойных стэндаў прадпрыемстваў з нашага і іншых рэгіёнаў Еўрарэгіёна Нёман (Літвы і Калінінградскай вобласці) увогуле не было.

Еўрарэгіён Нёман быў створаны ў чэрвені 1997 года. Гэта трохбаковае пагадненне Беларусі (Гродзенская вобласць), Польшчы (Падляшскае і Вармінска-Мазурскае ваяводствы), Літвы (рэгіёны Алітус, Мар'ямпаль, Вільнюс) і Калінінградскай вобласці. Ён прызначаны для прыгранічнага супрацоўніцтва ў шырокіх рамках. 11-12 верасня на кірмашы, арганізаваным у Цэнтральным спартыўным комплексе «Нёман» у Гродне, прадстаўляліся больш за сто экспанентаў. Адрэкамендаваліся толькі кампаніі розных сектараў эканомікі Гродзеншчыны і іншыя тутэйшыя арганізацыі.

Стэнд, які прадстаўляў Падляшша, быў загнаны ў кут калідораў спартыўнай залы, насупраць стэнда адной з кітайскіх правінцый, са шматлюднай дэлегацыяй, бачнай на кожным кроку, якую таксама цёпла сустракаў гродзенскі кіраўнік вобласці Уладзімір Краўцоў, так як і чэшскую, якая нічога супольнага з Еўрарэгіёнам Нёман не мела. Без сумневу, разынкай падляшскага стэнда была веласіпедная інтэрактыўная гульня, у якой педалюючы на адным з двух ровараў можа практычна зведаць усё ваяводства. Наведвальнікаў частавалі пячэннем «сукачом», цукеркамі і самапіскамі. Маршалак Падляшша Мечыслаў Башко, уваходзячы на кірмаш з дэлегацыяй ваяводскіх чыноўнікаў і ў кампаніі старшыні аблвыканкама Краўцова ды ўлад Еўрарэгіёна, быў прывітаны хлебам, і неўзабаве пасля сустрэчы быў адным з перарэзваючых стужку, адкрываючую кірмаш і форум. У афіцыйным выступленні маршалак падкрэсліў, што Падляшша на гэтым мерапрыемстве прадстаўлена не ўпершыню, але на гэты раз не толькі наблізіцца яго патэнцыял для развіцця турызму, але таксама паказана культурная прапанова. Не ведаю, чаму з волі маршалка ў прапанову ўключылі выступ «Курпяў зялёных» з польскімі танцамі, з паланэзам і мазуркай у касцюмах польскай шляхты на пачатак, і з горскімі галубцамі амаль на заканчэнне выступу, а некалькі разоў у некалькіхвілінных шпацырах паміж стэндамі акцёраў, размаляваных як клаўны, з тэатральнай групы «Wertep» у касцюмах і з рэквізітамі далёка з ніякім дачыненнем да Падляшша, але з адлегласці кідаючыміся ў вочы (магутнага рука, вялізнае вока і г.д.). Прысутнічаючы на гандлёвым кірмашы і форуме дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства Анатоль Вап, распытваны «Нівай», чаму такі набор прадстаўляўся ў гэтай культурнай прапанове, коратка і загадкава адказаў: «Гэта пытанне не да мяне».

## Таму што гэтага патрабуе павага?

Супрацоўнікі Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства (МУПВ) распаўсюджвалі на гродзенскім кірмашы дзясяткі кілаграмаў матэрыялаў, прасоўваючых ваяводства, у шырокім сэнсе, улічваючы не толькі выдадзеныя гэтай установай, але і іншымі нашымі турыстычнымі агенцтвамі, фірмамі і ўстановамі Падляшша. Ні адзін, аднак, не быў па-беларуску (нават беластоцкай Гарадской управы, у якой маюцца матэрыялы выдадзеныя па-беларуску). Яны былі даступны толькі на рускай і польскай мовах, а некаторыя па-англійску:

— Ну, як — няма па-беларуску? Я жыву ў Беларусі, а няма матэрыялаў па-беларуску? — здзівіўся адзін са старэйшых гродзенцаў, наведваючы падляшскі стэнд.

Магдалена Лыжніцкая-Санчанка, дырэктар дэпартамента міжнароднага супрацоўніцтва і садзейнічання МУПВ, галоўнага арганізатара ваяводскага стэнда, калі «Ніва» спыталася ў яе, чаму гэтак адбылося, сказала:

— Мы паважаем тых, хто запрашае нас (запрашаў гродзенскі губернатар — М. Х.). Калі самі беларусы не гавораць да нас на сваёй нацыянальнай мове — беларускай, дык павага да іх патрабуе адзывацца да іх так сама. У нас ёсць універсальныя матэрыялы (на рускай мове — М. Х), таму што гэта таксама звязана з эканамічным пытаннем. Гэтак проста таннней. Рэкламныя матэрыялы для Усходу мы выдаем на адной мове — толькі рускай. Не дзелім на латышскія, літоўскія, беларускія, малдаўскія і г.д. Мы публікуем іх на англійскай, рускай і нямецкай мовах.

Дадала, са спасылкай на «культурную прапанову»:

— А «Курпі зялёныя» мы прывезлі таму, што гэта прадстаўнічы ансамбль для ўсяго рэгіёна, таму што яны маюць песні і танцы з розных частак ваяводства.

Сярод адносна вялікай колькасці наведвальнікаў падляшскага стэнда сустрэлі мы дзвюх гродзенскіх студэнтак. Адна з іх прызналася, што карыстаецца Картай паляка:

— У мяне ёсць Карта паляка, але я рэдка бываю ў Польшчы. Неяк няма ў мяне часу, таму што вучуся. Хацела б я з'ездзіць на даўжэй. Мабыць, на канікулы да сям'і. Найбольш хацела б, аднак, у Варшаву. Такія прыгожыя вашы буклеты, можа, прыеду і на Падляшша. У цяперашні час часам заязджаю туды толькі для пакупак.

## Супрацоўніцтва на чатыры з плюсам

Магдалена Лыжніцкая-Санчанка:

— Наша мэта ў тым, каб як найбольш беларусаў прыязджала да нас не толькі пагандляваць на Кавалерыйскай, але каб карысталіся нашай турыстычнай інфраструктурай і прапановамі нашых культурных устаноў, а калі справа даходзіць да бізнес-сектара, каб падпісваліся найбольш выгадныя кантракты для абодвух бакоў. На тутэйшым Форуме ёсць прадстаўнікі ўсяго падляшскага эканамічнага сектара ад Сувалкаў да Бельска-Падляшскага. На стэндзе Падляшскага ваяводства ў нас ёсць матэрыялы паасобных фірм, нават калі яны самі на самой справе стэндаў не маюць. Але самі прадпрымальнікі — патэнцыйныя партнёры, да стэндаў таксама не прыходзяць. Яны размаўляюць адзін з адным тут, на форуме, ці ў іншым месцы ў прыватным парадку. Нашы прадпрымальнікі, якія суправаджаюць маршалка ваяводства, аднак, наведвалі беларускія стэнды.

У рамках форуму ў некалькіх месцах Гродна вяліся дэбаты ў секцыях, прысвечаных «інвестыцыям у Гродне як новым крыніцам эканамічнага росту», «перспектывам супрацоўніцтва ў сферы турызму», «праграмам міжнароднай тэхнічнай дапамогі» і «свабоднай эканамічнай зоне ў якасці прыярытэту ў павышэнні замежных інвестыцый». Перамовы прадпрымальнікаў вяліся з гродзенскімі ўладамі за зачыненымі дзвярыма і аб іх наступствах бягуча не было нічога вядома. Нягледзячы на просьбы, нам не ўдалося суправаджаць маршалка Башко ў аб'ездзе Гродзенскай спецыяльнай эканамічнай зоны. Яшчэ падчас інаўгурацыі выставы і форуму маршалак расказаў «Ніве» пра супрацоўніцтва Падляшша з Гродзеншчынай:

— Гэтаму супрацоўніцтву даю адзнаку чатыры з плюсам па пяцібальнай шкале. Выдатным носьбітам эканамічнага супрацоўніцтва паміж намі з'яўляецца турызм. Згодна з планамі будзе, нарэшце, пабудаваны мост на пагранпераходзе ў Баброўніках і пашыраны пагранпераход паміж Кузніцай і Брузгамі. Прыгранічным супрацоўніцтвам мы вельмі зацікаўлены ў кантэксце новых фінансавых перспектыў ЕС, асабліва праграмы «Польшча-Беларусь-

працяг 5





# Адказнасць вялікіх

Гэты свет створаны для вайны. Таму, хто ў гэтым сумняваецца, варта перачытаць Біблію ці кароткі курс сусветнай гісторыі. Вайна ідзе бесперапынна ад пачатку існавання чалавецтва на планеце Зямля. Вайна ідзе ў сэрцах і душах. Вайна ідзе на вадзе і сушы, а з дваццатага стагоддзя і пад вадой і ў паветры ў небе. А з дваццаць першага магчыма пойдзе і ў космасе, як у тых фантастычных фільмах. Войны вялі і вядуць супердзяржавы, імперыі, звычайныя і маленькія дзяржавы, злачынныя групоўкі, а таксама народы, якія імкнуцца вызваліцца ад чужаземнага панавання. Таму войны, відаць, проста непазбежныя. Але зразумела і іншае — многіх з іх можна было б унікнуць, каб палітыка моцных гэтага свету была больш абачлівай, каб яны рабілі высновы з урокаў гісторыі і не паўтаралі памылак мінулых стагоддзяў. Ды не туды тое. Вось маюць зараз Амерыка з Еўропай вялізныя праблемы ў шэрагу азіяцкіх і афрыканскіх краін — і на самых гэтых тэрыторыях і ў сваіх дзяржавах з наплывам мігрантаў. Але самі вінаватыя ў значнай ступені, што дайшло да такога. Высокія палітыкі не хочуць вучыцца на памылках іншых і ніяк не могуць зразумець, што розныя народы на розных кантынентах знаходзяцца на розных ступенях развіцця. Даказана гэта рознымі навуковымі даследаваннямі, на якія заходнія лібералы навешваюць страшныя ярлыкі, але абвергнуць проста не ў стане. І пераскочыць, прыкладам, ад рода-пляменнага ўкладу да развітой дэмакратыі пэўныя народы Азіі ці Афрыкі проста не ў стане. А калі за пару месяцаў ці тыдняў разбураецца, гвалтоўна парушаецца існы стагоддзямі ўклад, наступае хаос ці вайна, а часцяком яны прыходзяць адначасна і на доўгія гады, а то і дзесяцігоддзі.

Нельга так проста лезці на Усход. Усход — рэч тонкая, як казаў кінагерой. А дзе тонка — там і рвецца. Вось, прыкладам, пры патуранні Захадам адбыўся яшчэ ў 1973 годзе ў Афганістане дзяржаўны пераварот, манархію знішчылі і абвясцілі ў краіне рэспубліку. Далей — толькі горай. У 1978 годзе адбылася чарговая рэвалюцыя, якая прывяла да ўлады камуністычныя сілы. Пачалася грамадзянская вайна, а алею ў агонь істотна падліў Савецкі Саюз, які ўвёў у Афганістан свае войскі. З таго часу ў краіне не спыняецца вайна ў розных кірунках і парадку ў дзяржаве не даводзіцца чакаць у бліжэйшай будучыні. Савецкі Саюз увогуле лез усюды — так у Афрыцы ён будаваў сацыялізм у дзясятках краін, кормячы там рэжымы розных канібалаў і людаедаў. Парадку і толку ў тых краінах няма дагэтуль, а жывуць яны за рысай крайняй беднасці і нават голаду. Еўрапейцы таксама наламалі ў Афрыцы і Азіі нямала дрэў. Замест таго, каб дыстанцыявацца ад дыктатараў і падтрымліваць іншыя сілы, яны толькі ўмацоўвалі аўтарытарныя рэжымы, пакуль яны не павырасталі ў таталітарна-дыктатарскія. Так Францыя падтрымлівала Садама Хусейна ў Іраку, Італія на вышэйшым дзяржаўным роўні актыўна супрацоўнічала з Муамарам Кадафі ў Лібіі. Прыклады тут можна доўжыць. Чым усё скончылася — добра вядома. Але хаос у гэтых дзяржавах, дзе рэкамі лілася кроў, скончыцца не скора, кроў будзе ліцца яшчэ доўга. Нядзарная ж і самазнішчальная палітыка моцных дзяржаў непазбежна б'е рыкашэтам і па іх. Чым скончыцца маштабны наплыў мігрантаў з афрыканскіх і азіяцкіх краін для Еўропы — таксама можна прагназаваць, на жаль, амаль без надзеі памыліцца. Але сусветная карупцыя і гешэфты палітыкаў, якія пільнуюць інтарэсаў толькі магутных фінансавых карпарацый, дасягнулі ўжо такога роўню, што ніхто не ведае, як гэта спыніць. Таму і супрацоўнічаюць напоўніцу еўрапейскія дэмакратычныя дзяржавы з дыктатарскімі рэжымамі кшталту аліеўскага ў Азербайджане, таму ніхто не дапаможа і беларусам у той сітуацыі, у якой яны апынуліся, бо гэта ж закране інтарэсы той жа Расіі, з рэжымам якой так доўга мілаваліся і супрацоўнічалі заходнія лідары.

Вайны намнога цяжэй унікнуць, чым яе пачаць. Таму так многа было і ёсць важных і высокіх палітыкаў у свеце, але так мала сярод іх вялікіх. Тых, якія думаюць пра сваю адказнасць і важную місію.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Гоп-сюп!



У Польшчы мала хапала, каб запусцілі атамную бомбу. Не ў літаральным сэнсе, толькі адэкватна да эфектаў антысістэмнай рэвалюцыі, якую спрабаваў ініцыяваць у краіне гэтак званы Рух Кукіза (які да нядаўна карыстаўся 20-працэнтнай падтрымкай выбарцаў), калі б у рэферэндуме, абвешчаным у спешцы і без глыбейшага одуму прэзідэнтам Браніславам Камароўскім, прыняла большасць з 30 мільёнаў грамадзян, меўшых права голасу. Здаецца, гэтыя 50% галасоў, неабходных, каб прыняць вынікі рэферэндуму сапраўднымі, незалежна нават ад гіпатэтычнага выбару на «так» ці «не» наконт пастаўленых у ім пытанняў, прадухілілі сваёй явачнай лянотай катаклізм ладу, параўнальны ў палітычных і сацыяльных выніках да катастрафічных наступстваў атамнага выбуху і яго радыяцыйных паслядоўнасцей.

Маштаб грамадзянскай выбарчай лянноты — вялікі. Толькі ці гэта лянота, ці, магчыма, крайняя нездаволенасць грамадства. Або яго поўнае заблытанне ў тым, што для яго важнае, а што не; тое, што важнае, а можа толькі ілюзорнае, што праўдзіва, а што фальшывае. Нагадаем чаго датычылі рэферэндумныя пытанні: увядзення аднамандатных акруг на парламенцкіх выбарах, фінансавання партый з дзяржаўнага бюджэту і падатковых вырашэнняў на карысць падаткаплацельшчыка ў выпадку сумненняў. Нават пакідаючы ў баку пытанне аб іх сутнаснай падставе, можна быць упэўненым, што палітычная істэрыя, якая за ім стаяла, пазбаўляе нацыянальнае галасаванне ўсялякай рухаючай сілы.Тым больш, што ён быў падрыхтаваны на голым калене і без папярэдняй кансультацыі. Што яшчэ горш, шырокая грамадскасць не была гатовай па сутнасці да таго, каб з поўным веданнем аб сэнсе пытанняў, пастаўленых у рэферэндуме, адказаць на іх з поўным разуменнем і адказнасцю за свой голас. Гэта ясна паказвае, як палітычны клас эмансіпаваў сам сябе ад грамадства — таго ж самага грамадства, якому прыйдзецца праз момант вырашаць на маючых адбыцца парламенцкіх выбарах, якія будуць прадстаўляць яго на працягу наступных чатырох гадоў. Я маю на ўвазе ўвесь палітычны клас у Польшчы, незалежна ад яго партыйнай канатацыі. Бо так, як за апошні і бесталковы рэферэндум адказвае так адзін бок палітычнага класа, як і другі, варожы яму бок, патрабуючы наступны і яшчэ больш бесталковы рэферэндум — так званы рэферэндум Дуды — паказаў аднолькава агідны твар пагарды. Перш за ўсё, пагарды да інтэлігенцыі сваіх выбаршчыкаў.

Афіцыйныя справаздачы, якія прыйшлі з польскіх консульстваў у ЗША, дзе былі ўсталяваны урны ў час рэферэндуму, даводзяць да таго, што валасы дыбам становяцца. Дэмакратыя, ядром якой з'яўляецца электаральная актыўнасць грамадзян, пацярпела поўнае паражэнне ў асобе польскага палітычнага класа. Палякі, якія пражываюць на амерыканскай зямлі і маюць права голасу,явіліся ля урнаў у ліку 656 чалавек... Пераважная большасць з іх прагаласавала за ўвядзенне аднамандатных акруг і ўнясенне змяненняў у цяперашні метад фінансавання палітычных партый. Іншымі словамі, большасці выбаршчыкаў во пагэтуль надакучыла палітычная сістэма ў Польшчы, абараняючая статус-кво бягучага палітычнага класа! Што тычыцца трэцяга пытання, такога ж выкрунтаснага, як і папуліцкага, вядома, што кожны разважны грамадзянін адкажа: «так, мне ўжо дастаткова гэтай дзяржавы, якая, сваімі падатковымі органамі крыўдзіць мяне па законе, але, насуперак дзеючай канстытуцыі». Такім чынам адказала цэлых 90% выбаршчыкаў. На жаль, гэта ў сапраўдных ліках недастаткова, прытым адно больш за 500 чалавек. Для параўнання, у праведзеным у траўні гэтага года другім туры прэзідэнцкіх выбараў, аддалі свае галасы каля 23 тыс. чалавек. Гэта паказвае найлепш, якія грамадзяне на самой справе маюць адносіны да таго, што адбываецца сёння ў палітыцы. А урны на выбарчых участках у краіне напоўніліся толькі ў 7,8 працэнта. Такім чынам, палітычная рэвалюцыя ў Польшчы не адбылася. Ані па рэцэпце Кукіза, ані па тым, які прапаноўвае ўвесь наш польскі палітычны клас: Гоп-сюп, а цяпер змена... !..

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Вяртанне спадчыны

Некалькі раз я пісаў у гэтай рубрыцы аб планах перадачы Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства Падляшскаму музею двух двухбакова памаляваных, шырокафарматных тэатральных праспектаў, то-бок заднікаў (дэкарацый на заднім плане сцэны). Іх аўтарам быў Язэп Драздовіч (1888-1954) — класік беларускага мастацтва. Яны былі створаны па заказе беластоцкага аддзела Таварыства беларускай школы, па запрашэнні якога ў цяперашняй падляшскай сталіцы аўтар прабываў у 1933 г. З 60-х гадоў мінулага стагоддзя знаходзіліся яны ў рэсурсах БГКТ, атрыманыя ад вядомага беларускага дзеяча Канстанціна Сідаровіча, які іх захоўваў з даваеннага перыяду. І гэта адбылося. 9 верасня аб факце перадачы гэтых работ афіцыйна абвясцілі падчас прэс-канферэнцыі ў сядзібе ГП БГКТ яго старшыня Ян Сычэўскі і дырэктар Падляшскага музея Анджэй Ляхоўскі ў прысутнасці Анатоля Вапа, дырэктара дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, якога ўстановай з'яўляецца Падляшскі музей. Старшыня Сычэўскі сказаў: «Дырэктар Ляхоўскі як спецыяліст асабіста праверыў, што гэтыя працы не былі дэградаваныя з пункту гледжання эстэтычных каштоўнасцей, але патрабуюць пэўнага аднаўлення. Тым не менш, яны знаходзяцца ў зусім неблагім стане. Як Галоўнае праўленне БГКТ мы прыйшлі да высновы, што захоўванне іх на гарышчы надалей не мае сэнсу. Няма такой магчымасці, каб яны былі выкарыстаны ў мэтах дзейнасці БГКТ. Мы лічым, што перадача іх прафесійнай установе, значыць у рукі спадара дырэктара Ляхоўскага, з'яўляецца разумнай і апраўданай, паколькі гэтыя працы патрабуюць якраз кансервацыі і прэзентацыі. Гаворка толькі пра тое, каб гэты элемент беларускасці не быў страчаны. Зразумела, што Драздовіч і яго творы вынікаюць з кантэксту культуры і беларускага народа. Добра было б, каб ён і яго працы трывалі ў памяці мультыкультурнага асяроддзя Беластока і Беласточчыны».

Анджэй Ляхоўскі адзначыў: «Вызначваючы даволі лёгка гэты мультыкультуралізм, пералічваем беларусаў, расіян, габрэяў, немцаў, украінцаў, цыган.... не маючы нас канкрэтна гэта чым удакументаваць. У нас ёсць імёны, але не паказваем таго фактычнага мультыкультурнага жыцця. Гэта, безумоўна, недастаткова. Калі мы паглядзім на жыццё культурнае, тэатральнае гэтага перыяду, маем дачыненне наогул толькі з польскім грамадствам, трошкі з габрэйскім і немецкім, а аб беларускім у публічных зборах няма практычна нічога. Сёння наш мультыкультуралізм таксама мае тут дэкларатыўны характар, і мы не можам дасягнуць каранёў, паказваючы фактычную каштоўнасць гэтага працэсу суіснавання розных нацый. Да мазаікі, якая складваецца на гісторыю Беластока, дакладваем адзін з самых важных элементаў. Яму не можа быць наканавана цішыня і паўзмрок музейнага склада. Наша мэта заключаецца ў стварэнні вакол гэтых беларускіх твораў пэўнай тэатральна-гістарычнай праграмы, якая будзе ісці ў сучаснасць».

Анатоль Вап адзначыў: «Наша культурная ўстанова атрымлівае вельмі каштоўныя экспанаты ў свае зборы са значэннем не толькі рэгіянальным, але і міжнародным. Нашы культурныя ўстановы карыстаюцца такім высокім узроўнем даверу няўрадавых арганізацый, якія перадаюць нам іх уласныя зборы».

Спаслаўся ён на пачатыя 12 верасня Дні еўрапейскай спадчыны, якія сёлета праходзяць пад лозунгам «Страчаная спадчына»: «Гэтыя творы Язэпа Драздовіча належаць да такой страчанай спадчыны: так памяць аб Язэпе Драздовічу тут на Беласточчыне, як і яго творы, аб якіх ведала толькі невялікая група людзей. Нават многія з тых, хто выступаў на сцэне сядзібы БГКТ і гэтыя задні былі фонам іх выступленняў, не ведалі, якія яны каштоўныя для беларускай культуры, але і польскай, асабліва ў вымярэнні Падляшша. Аднаўляем гэтую згубленую спадчыну. Магчыма, праз 10-20 гадоў яна была б страчанай назаўсёды. Беласток і Падляшша могуць ганарыцца тым, што ствараў тут хтосьці такі як Язэп Драздовіч».

Нагадваю, што праспекты, намаляваныя ў Беластоку Язэпам Драздовічам, маюць памеры: першы — з відам вясковай хаты з аднаго боку і пейзажам з бярозамі з другога — 440 х 225 см, другі — з відам замка ў Міры і пейзажам з соснамі — 400 х 270 см. Першая прэзентацыя аднаўленых пасля кансервацыі прац у Падляшскім музеі прадбачваецца вясной.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Фэст здароўя



**Падчас спартыўных спаборніцтваў і мерапрыемстваў на вольным паветры можна пачуць лозунг «У здаровым целе здаровы дух». Можна таксама сказаць наадварот, што духоўнае здароўе мае станоўчае ўздзеянне на фізічную форму. Лекары ж паўтараюць, што неспакойнае і нервовае жыццё спрычыняецца да ўзнікнення хвароб. Гайнаўскія братчыкі рашыліся прасоўваць здаровы лад жыцця, у тым ліку — фізічны рух на адкрытым паветры, чытанне духоўнай літаратуры, спажыванне здаровага харчавання і прафілактычныя праверкі стану здароўя. Гэтую задуму сёлета рэалізавалі яны 30 жніўня на чацвёртым ужо «Фэсце здароўя». Гайнаўскаму аддзяленню Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія сарганізаваць фэст у амфітэатры і гарадскім парку дапамаглі бургамістр і Гайнаўскі дом культуры. Каб прыцягнуць на мерапрыемства як найбольш людзей, гайнаўскія братчыкі парупіліся пра атракцыйную праграму на сцэне. Запрэзентаваліся на ёй музычныя калектывы з Гайнаўшчыны, Бельска-Падляшскага і Рэспублікі Беларусь.**

Фэст здароўя адкрылі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і арганізатары — Кацярына Чурак і Ева Рыгаровіч.

— «Фэст здароўя» — цудоўная ініцыятыва, якая прапагандуе як дбаць пра сваё фізічнае і духоўнае здароўе, — заявіў бургамістр Гайнаўкі.

— Мы прапагандуем здаровы стыль жыцця, згодна лозунгу «У здаровым целе здаровы дух». Заахвочваем гайнавян дбаць пра духоўнае і фізічнае здароўе і дзеля гэтага падрыхтавалі мы наведвальнікам шматлікія прапановы, — сказала Ева Рыгаровіч, ініцыятар і галоўны суарганізатар «Фэсту здароўя» (яна таксама арганізатар замежных паломніцтваў, у тым ліку сёлетняй пешаходнай пілігрымкі ў Пачаеў).

— Гайнаўскае аддзяленне Брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія стараецца выходзіць да людзей. У нашым брацтве дзейнічаюць працаўнікі аховы здароўя. Медсястра Ева Рыгаровіч выйшла з прапановай арганізаваць «Фэст здароўя» і мы сталі ладзіць яго. Многія людзі неахвотныя хадзіць да лекараў, каб праверыць стан здароўя. Сёлета мы арганізуем гэты фэст ужо чацвёрты раз і стараемся, каб гайнавяне знайшлі тут тое, што іх цікавіць наконт духоўнага і фізічнага здароўя, — гаварыла Кацярына Чурак, старшыня гайнаўскага аддзялення Брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія.

Працаўнікі Самастойнага публічнага прадпрыемства аховы здароўя ў Гайнаўцы правяралі ціск крыві і ўзровень цукру. Гайнавяне маглі таксама здаць кроў для патрабуючых і такой магчымасцю пакарысталіся 21 мужчына і 17 жанчын.

— Сёння мы здаем кроў для патрабуючых, а ў будучыні мы можам патрабаваць яе для сябе, якую аддалі іншыя. Цяпер здараецца штораз больш дарожна-транспартных здарэнняў, таму трэба штораз больш крыві, каб ратаваць жыццё пацярпелых, — сказаў адзін з донараў.




■ Гайнавянкі прыносілі слоікі на конкурс на лепшую агародніну

На сцэне паказвалі і дакладна тлумачылі як аказваць першую дапамогу, калі нехта страціць прытомнасць. Пераконвалі, што веданне як аказваць першую дапамогу асабліва важнае, калі няшчасце здарыцца ў адлеглых мясцовасцях, да якіх ратаўнікі не ў змозе неадкладна прыехаць. Парады бясплатна давала лекар дэрматолаг Ірэна Астроверх і лагапед Альжбета Стэрлінгаў. Пасля адпаведнага абследавання можна было даведацца пра свой прыблізны біялагічны ўзрост. Братчыкі правялі таксама конкурс на смачнейшую агародніну на прыз бургамістра Гайнаўкі.

— Кулінарны конкурс на лепшую агародніну мы арганізуем другі раз. Жанчыны прыносяць агародніну ў слоіках, а некаторыя прыносяць харчаванне, з якім можна з'есці агародніну, — расказвалі Іаанна Кірылюк і Марыя Ляшчынская, якія былі адказныя за правядзенне конкурсу.

Першае месца заняла Аліна Мішчук за смачныя агуркі, другое месца камісія прызначыла Эміліі Бойка за джэм, а трэцяе месца заняла Ніна Бальцарэвіч за сок з агародніны. Узнагароды ўручыў бургамістр Ежы Сірак.

Падчас фэсту можна было набыць духоўную літаратуру гайнаўскага выдавецтва «Братчык» і іншых выдаўцоў. З манастыра ў Яблачыне прыехаў архідыякан Касіян з памочнікамі, якія прадавалі, між іншым, харчаванне манастырскай вытворчасці.

— У нас ёсць карова. Мы сюды прывезлі здаровыя сыр і масла нашай вытворчасці. Прапануем таксама піражнае, выкананае між іншым з агуркоў. Гайнавяне купляюць нашы вырабы, — сказаў архідыякан Касіян. — У нашым манастыры зараз жыве 7 манахаў і паслушнікаў. Гэта нямнога, як на магчымасці і колькасць ранейшых жыхароў нашага манастыра. Меншае колькасць маладых асоб зацікаўленых манаскім жыццём. Гэта відаць і ў іншых манастырах.

Гарбату з зёлак і мёд са Скіта свсв. Антонія і Феадосія ў Адрынках прадаваў Юры Рыгаровіч з памочнікамі. Ева Рыгаровіч удакладніла, што архімандрыт Гаўрыіл не мог даехаць на фэст з-за сваіх абавязкаў. Па такой жа прычыне не даехалі іераманахі з Дзмітрыеўскага манастыра ў Саках.

— У мінулым годзе вельмі цікавым было выступленне іераманаха Уладзіміра з Дзмітрыеўскага манастыра, — сказала Ева Рыгаровіч.

А два гады таму можна было выслухаць выступленне архімандрыта Гаўрыіла са скіта ў Адрынках. Перад яго палаткай выстраілася чарга людзей за парадамі ў справах лячэння хвароб і вырашання розных жыццёвых складанасцей. Юры Рыгаровіч удакладніў, што цяпер парады айца Гаўрыіла можна атрымаць у скіце. Зёлкі і прыправы прадавала гайнаўская суполка «Руно».

Рукадзелле ўдзельнікаў Майстар-класаў па працатэрапіі ў Гайнаўцы прадавалі іх апекуны. Асобы з абмежаваннямі на такіх майстар-класах прыспасабляюцца да самастойнага жыцця. Некаторыя з іх умеюць вельмі прыгожа маляваць, вышываць і выконваюць прыгожыя сувеніры, якія можна было купіць падчас фэсту.

— Мы купляем неаброблены дэталі, а нашы падапечныя абклейваюць іх, размалёўваюць і па-іншаму ўпрыгожваюць. Такім чынам атрымліваюцца вельмі прыгожыя вырабы. Купляем мы таксама аброблены дошкі і наклейваем на іх іконы. Мы рады, што можам займацца з так здольнымі людзьмі, якія шляхам працы прыспасабляюцца да жыцця. Сёння можна купіць іх вырабы і дапамагчы нашай дзейнасці, — гаварыла Іаанна Плева.

Выпускніца Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы Кацярына Куклінская заснавала непублічную амбулаторыю лячэбнай рэабілітацыі «Кінетыка», якая аказвае рэабілітацыйныя паслугі.

— Мы прапануем рэабілітацыйныя паслугі ў нашых памяшканнях па вуліцы Сцягеннага, а таксама групавыя рэабілітацыйныя заняткі ў Водным парку ў Гайнаўцы. У супрацоўніцтве з беластоцкай суполкай «Formedplus» праводзім бясплатную праверку ступняў і робім гэта сёння, — сказала Кацярына Куклінская.

Чарга дзетак выстраілася да паветранага замка, дашкольнікі і вучні карысталіся трамплінам, для наймалодшых былі наладжаны гульні. Арганізатары фэсту паклапаціліся, каб дзеткі маглі карыстацца ўсімі атракцыёнамі бясплатна.

Музычную частку фэсту вёў гайнаўскі музыколаг, знаток харавога спеву Марцін Абійскі. Першым цікава запрэзентаваўся квінтэт «Доўгі вечар» з Гайнаўкі. Беларускія песні займальна запрэзентавалі два вакальныя калектывы з Пружан — «Шчырым сэрцам» і «Забава». У вялікім саставе прыгожа запрэзентаваўся беларускі хор «Васілёчкі» Бельскага дома культуры. Жанчыны з Гайнаўкі ўдала запрэзентавалі аэробіку, а Духавы аркестр з Гайнаўкі цікава выступаў самастойна і падыгрываў гайнаўскім маржарэткам. Цудоўна выступілі вучні Калектыву народнага танца «Перапёлка» Гайнаўскага дома культуры. Цікава запрэзентаваліся дзюдаісты Гайнаўскага спартыўнага клуба «Зубр», якіх трэнуе Якуб Астапчук.

У гайнаўскім амфітэатры ўдала спявалі калектывы «Верасы» з Чыжоў і «Тэрцэт з Макаўкі». Цікава заспявала Юліта Кічкайла, якая прадстаўляла Майстар-класы па працатэрапіі. Побач выступу з фальклорным рэпертуарам студзіводскага калектыву «Жэмэрва» да танцаў зайграў Дарафей Фіёнік з сынам Ільём. Тамаш Суліма з дзяўчатамі прадаваў выданні Студзіводскага музея, а апошнім запрэзентаваўся бельскі гурт «Гайракі».

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Гаспадарка нечыстотамі ў Чаромхаўскай гміне

На спіску фірм, якія займаюцца вывазкай нечыстотаў у Чаромхаўскай гміне зарэгістравана чатыры ўстановы: тры з Беластока і адна з Гайнаўкі. Таргі выйграла і дамову заключыла Гайнаўскае прадпрыемства камунальных паслуг (ПУК), прытрымліваючыся гадовай стаўкі 210 607,68 зл., у месячным разліку — 17 550 зл. ПУК заключыла дамову на арэнду 17 камплектаў кантэйнераў і вывазку з іх нечыстотаў за суму 2 200, 87 зл. у год. Вывазка селектыўных адпадаў адбываецца раз у месяц, змешаных ад аднасямейных гаспадарак раз у месяц, ад шматсямейных гаспадарак (жылыя кварталы) — два разы ў месяц. Апрача таго ў пасёлку Чаромха, пры вуліцы Дзібуа працуе пункт селектыўнай зборкі нечыстотаў, у тым ліку металалому, матэрыялаў, забруджаных небяспечнымі рэчывамі, шкла, паперы, лякарстваў, электратэхнікі і т.п. Кошт абслугі сістэмы ў мінулым годзе склаў суму 240 901, 23 зл.

У гмінную касу паступіла 238 033,19 зл., нядоімка на 31 снежня 2014 г. склала 9 629,40 зл., пры чым пагашана даўгі для 11 гаспадарак на суму 1 496 зл. У Чаромхаўскай гміне на 31 снежня 2014 года было прапісаных 3 443 жыхары.

На спіску ўлікавых гаспадарак, пацверджаных дэкларацыямі, у тым ліку 163 кватэры з васьмікватарункових супольнасцей, селектыўнай гаспадаркай адпадамі займалася 337 гаспадарак і 841 — змешанай. У мінулым годзе на тэрыторыі гміны было сабраных, між іншым, картону і паперы — 5,2 тоны, сінтэтычных матэрыялаў — 7,1 т., шкла — 25,3 т., шматгабарытных вырабаў — 6,0 т., змешаных адпадаў — 398,9 тоны, выкарыстаных электрапрыбораў — 1,1 т., аўтамабільных пакрышак — 6,3 тон ды іншых з селектыўнай зборкі адпадаў — 11,1 т.

Па ацэнцы самаўрадавай камунальнай гаспадаркі, сістэма абыходжання з адпадамі функцыянуе правільна.

**(ус)**

# Бяседа з Маркам і Матэвушам

**— Гэтую ідэю перанялі мы ад Міраслава Каравая, — прызнаецца беластоцкі гімназіст Матэвуш Карнілюк. Целушэцкая бяседа — развітанне з летам, як заўсёды, адбылася на пляцоўцы былой школы. — Хочам інтэграваць усе пакаленні жыхароў і выхадцаў нашай вёскі, — гаворыць далей мой суразмоўца.**



Арганізатары бяседы — Марк і Гражына, ззаду Матэвуш

У Целушкі Матэвуш прыязджае да дзядоў і каб сустрэцца з калегамі, як і ён сам, штодзень жывучымі ў вялікім Беластоку.

Бяседу сарганізаваў разам з вучнем сярэдняй школы Маркам Кульгаўчуком і солтысам Целушок — Гражынай Харытанюк-Міхей. Рыхтаваліся цэлае лета. У асноўным канцэнтраваліся на парадкаванні прышкольнай пляцоўкі і самага будынка.

— Папрыбіралі мы, між іншым, школьны склеп і верх — былыя кватэры настаўнікаў. А яшчэ зрабілі пакупкі, ад айца Гаўрыіла пазычылі палаткі бяседнікам, прыдумалі конкурсы малышам і дыскатэку дарослым.

І гэта далёка не ўсё, чым Матэвуш і Марк займаліся на працягу апошніх двух месяцаў. Усё для вёскі. Сапраўдныя, адказныя гаспадары з такімі тут ніколі не прападуць.

Солтыска Гражына Харытанюк-Міхей марыць пра пераўтварэнне былой школы ў сучасную вясковую святліцу. Паднішчаны будынак ужо служыць месцам пасяджэнняў вясковай рады. Нейкія грошы прызначаныя з салэцкага фонду пойдуць на пачатак рамонту.

— Шукаем спонсараў. Што будзе далей пакажа час, не ўсё адразу. Асноўнае, што мясцовыя падтрымліваюць, што ім гэта патрэбна, — спадзяецца на пазітыўны фінал солтыска.

— З сямідзясятых гадоў ніхто нічога тут не аднаўляў, — клапоціцца Матэвуш. — Ратаваць школу трэба ўжо цяпер. Нават кабелі павырывалі, усё панішчылі. Павыбіваныя вокны пакуль забяспечылі мы дошкамі. Па-мойму, абавязкова трэба пачаць з акон і дзвярэй, а потым заняцца сярэдзінай.

У целушэцкую школу варта заглянуць ужо цяпер. Апрача рэканструкцыі колішняга класа са старымі школьнымі партамі можна пабачыць надта цікавую выстаўку, прысвечаную гісторыі школы.

У гэтых парогах сваю настаўніцкую кар'еру пачынала адна з удзельніц бяседы Ніна Грыгарук.

— Не хапала паланістаў, таму ў працоўным дагаворы ўпісалі мне навучанне польскай мове, але вучыла я таксама рускай і беларускай мовам, — распавядае спадарыня Грыгарук. — Тады класы былі спалучаны, вось тут сядзелі пяці- і шасцікласнікі, а там сёмы і восьмы класы. Калі хочаце, усё тут вам пакажу, — прапануе ветліва.

— Вось пакой настаўнікаў з адным на цэлую вёску тэлевізарам. Прыйшлося дзяжурыць. На шчасце жыла я тады наверсе ў адной з настаўніцкіх кватэр, а працавала, між іншым, з Нінай Харытанюк — мамай цяперашняй солтыскі.

У ідэнтыфікацыі людзей на выставачных здымках дапамагла таксама выпускніца гэтай школы Ніна Семянюк з Пухлаў.

— Я была ў апошняй групе школьнікаў, — прызнаецца.

Школу ліквідавалі ў 1977 годзе. Хто не паспеў закончыць адукацыі, у залежнасці ад месца жыхарства, перайшоў у Паўлы альбо ў Трасцянку. У параўнанні з іншымі вясковымі школамі, адукацыя праходзіла тут на надзвычай высокім узроўні. Асабліва пераканаліся аб гэтым вучні, якія працягвалі навуку ў Трасцянцы. Дзякуючы настаўніцы Ніне Харытанюк я стала адной з пераможніц алімпіяды па рускай мове. Яна вучыла мне таксама польскай мове. Такіх паланістак як спадарыня Харытанюк я нават у ліцэі не сустрэла. Сапраўды вялікая рэдкасць і шчасце, каб у вясковай школе папасці на так добра падрыхтаваную настаўніцу.

Наведвальнікі выстаўкі ў час мерапрыемства слухалі шлягеры з да- і пасляваенных вясковых забаў, выканаыя на акардэоне аўтаркай артыкула.

— Зусім як калісь, — сказаў госць вясельнай забавы, якая адбылася дакладна ў той жа школьнай зале дзясяткі гадоў таму.

А потым быў „мікрафон для ўсіх", якім пакарысталіся ў асноўным дзеці і моладзь. У іх ліку апынуліся нават лаўраты беларускіх дзіцячых песенных фестываляў.

Госці бяседы ўдзельнічалі таксама ў больш і менш спартыўных спаборніцтвах, у вогнішчы і беларускай дыскатэцы дыджэя Марка.

Варта адзначыць што Матэвуш і Марк з'яўляюцца заснавальнікамі і вядучымі інтэрнэт-старонкі, прысвечанай Целушкам. А там, між іншым, старыя і сучасныя здымкі, вясковыя дакументы, а нават справаздачы з пасяджэнняў салэцкай рады.

— Дзякуючы гэтаму сайту пра вясковыя справы даведаюцца не толькі жыхары, але і выхадцы, — аб'ясняе Матэвуш.

Солтыска Гражына Харытанюк-Міхей мяркуе :

— Такіх працавітых, добраахвотных і адданых справе маладых людзей як Матэвуш і Марк, мабыць, няма ва ўсім свеце.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Уладзімір вечна жывы



Паволі, здаецца, супакойваецца наш тутэйшы ўсплёск медыйнай пены на стогадовай метцы з пачатку вялікай вандроўкі нашых продкаў па амаль бязмежных еўраазіяцкіх прасторах. У зусім адваротным напрамку, чым ранейшыя масавыя людскія навалы гунаў ці манголаў, трывожна зафіксаваныя тадышнімі еўрапейскімі летапісцамі. Менш бурныя ранейшыя міграцыі індаеўрапейскіх плямён у заходнім напрамку, у тым ліку славянскіх, не ўспелі на эпоху больш пашыранай каліграфіі ў міжземнаморскіх асветных установах...

Масавую міграцыю нашых продкаў у 1915 годзе прынята называць бежанствам, хаця тую падзею больш адэкватна было б называць арганізаваным перасяленнем. Як тая арганізацыя выглядала, агульна вядома — па меры магчымасцей тадышніх таго перасялення арганізатараў. Сапраўднае ж бежанства пачалося тры гады пазней — уцёкі ад крывавага хаосу выкліканага ломкай грамадскага парадку ў выніку бальшавіцкага перавароту. Тады нашы людзі сталі сапраўды ўцякаць перад разгарэўшымся грамадскім пеклам — сталі ўцякаць туды, куды яно не сягала, туды, дзе можна было нармальна, мірна, хаця вельмі цяжка жыць. І напрамак быў толькі адзін — на захад, у свае пакінутыя раней гнёзды...

Зараз падобная, як у бальшавіцкай Расіі, сітуацыя заіснавала ў краінах Леванта, дзе таксама быў зламаны грамадскі парадак і людзі атрымалі вольную анархічную волю. Дзе, так як у бальшавікоў, меў быць устаноўлены новы „светлы" грамадскі лад. З людзей вырвалася таймаванае раней зло і яны сталі энергію выпрэгаць на што толькі папала. Гэтак жа сама, як „белыя" і „чырвоныя" на расійскіх прасторах амаль сто гадоў таму. Вось нядаўна „героі" Леванта падарвалі старажытны храм Ваала ў Пальміры, так жа сама, як бальшавікі масава нішчылі храмы вакол сябе. Цалкам нядаўна лозунг „Ленін жыў, жыве і будзе жыць" быў вядучым дасягненнем савецкай „медыцыны". Але ён, лозунг, па сутнасці, аднаэначны лозунгу „Герастрат жыў, жыве і будзе жыць"; у старажытнасці Герастрат падпаліў храм Артэміды ў Эфесе...

Калі аглянуцца далёка-далёка за сябе ў часе, то відаць, што асноўныя сусветныя міграцыі адбываліся, у прынцыпе, уздоўж зямных паралеляў, па лініі Усход-Захад; па гэтым напрамку адны бягуць з ружжом у руках, іншыя з клункамі на плячах. Як калісь спяваў Уладзімір Высоцкі: „Не пугайтесь, когда не на месте закат, Судный день — это сказки для старших, Просто Землю вращают, куда захотят, Наши сменные роты на марше"...

Сёння, як і ў Расіі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, выбух міграцыйны вулкан у шырокім Леванце — у Іраку, Сірыі, Лівіі, Афганістане. З той розніцай, што дэстабілізацыю выклікаў там не дзейнічаючы з падполля Ленін, толькі па-рознаму выклікалі цалкам магутныя лідары супер-дзяржаў, якія складаюць Савет бяспекі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый; вядучай задачай таго Савета мае быццам быць утрыманне міру і бяспекі ў свеце... І зноў хваля бежанцаў перад палаючым у іх пеклам кінулася ў напрамку аднасна бяспечных гаваняў — на Захад; так прынамсі паказваюць сусветныя медыі. І па дарозе тысячы гэтага народу знаходзяць вечны спачынак пад сырымі хвалямі Міжземнага мора, быццам нашы продкі ў сырой зямельцы Баранавіч і за-Баранавіч. Магчыма, што нейкія бежанцы кіруюцца і на Усход, як гэта заяўляюць Масква і багатыя дзяржавы Персідскага заліва, толькі непаседна кругаглядныя медыі неяк заўважаюць адно тых, што кіруюцца за сонцам...

Наступ соцень тысяч няпрошаных гасцей устрывожыў Еўропу, асабліва ж нашу частку гэтага кантынента; у дзяржавах традыцыйнага Захаду іміграны з розных бакоў свету ўжо прыжыліся, хаця не заўсёды мірна. Вось і наша грамадства палохаецца, ці тыя людскія масы з іншага свету не прывалакуць да нас нейкай біды, найперш тэрарызму ў выкананні паслядоўнікаў Леніна і Герастрата. Бо не ўсе з іх рвуцца ў Еўропу толькі ў мірных мэтах...

„Аповесць мінулых гадоў": 980 г.: „И стал Владимир княжить в Киеве один и поставил кумиры на холме за теремным двором: деревянного Перуна с серебряной головой и золотыми усами, и Хорса и Даждьбога, и Стрибога, и Симаргла и Мокошь. И приносили им жертвы, называя *их* богами, и приводили своих сыновей, и приносили жертвы бесам, и оскверняли землю жертвоприношениями своими". Восем гадоў пазней, 988 г.: „И когда пришел, повелел повергнуть идолы — одни изрубить, а другие сжечь. Перуна же приказал привязать к хвосту коня и волочить его с горы по Боричеву к Ручью и приставил двенадцать мужей колотить его палками". Ці ж не тое самае, што святы роўнаапостальны князь Уладзімір, рабілі Герастрат раней і Ленін пазней? Свет кругалём кружыцца, *panta rhei*...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Золата Якава Замуленіка

**— Гавораць што польскі народ кепскі, — кажа Анатоль Парэмбскі з Валілаў-Станцыі, — але я лічу, што 80 працэнтаў з іх гэта добрыя людзі.**

Анатоль Парэмбскі нарадзіўся ў Страшаве на каталіцкія Каляды 25 снежня 1927 года. Не можа быць, каб праваслаўны мужык святкаваў свой дзень нараджэння разам з каталіцкім Богам, — падумалі міжваенныя польскія чыноўнікі. Таму пайшлі насупраць божаму рашэнню і перапісалі яго на 23 снежня. У Страшаве гадаваліся бацькі і дзяды спадара Парэмбскага. Ён сам яшчэ ў дзяцінстве запыніўся ў недалёкіх, праслаўленых Кастусём Каліноўскім, Мастаўлянах.

У выніку міжваенных земляробчых рэформ мастаўлянскі маёнтак славутага рэвалюцыянера царскіх часоў распарцалявалі. Зямлю прадалі толькі палякам — перасяленцам з цэнтральных і заходніх рэгіёнаў Польшчы.

Выключэннем быў тут Іван Парэмбскі — бацька спадара Анатоля, які ў 1928 годзе набыў адзін з маёнткавых участкаў. Праваслаўны беларус перахітрыў польскіх чыноўнікаў сваім розумам, пальскагучным прозвішчам, а перш за ўсё грашыма. Адкуль іх набраў?

— Заўсёды так было, што нават у вёсцы адны жывуць лепш, а другія горш, — тлумачыць спадар Анатоль. — Найчасцей горш жыве той, якому не хочацца рабіць.

Яго дзеда па мамінай лініі — Якава Лебядзінскага ў вёсцы звалі Замуленікам, таму што не мог выседзець без работы. Някепска гаспадарыў, а яшчэ і ў лесе рабіў. Грошай заўсёды хапала.

Пачалося бурнае дваццатае стагоддзе. Першая сусветная вайна, а ўслед за ёй выдатная руская прапаганда і пераезд цэлага Страшава ў глыбокую Расію. Ехалі ж да сваіх. Страшава ці Омск — гэта ж была тады адна, вялікая руская зямля. Дзед спадара Анатоля па бацькавай лініі Аляксей Парэмбскі таксама туды паехаў.

У 1915 годзе, перад самым выездам, разумныя страшаўцы пакарысталіся добрымі гандлёвымі сувязямі з гарадоцкімі жыдамі і прадалі ім усю хатнюю жывіну. Шмуль Шміт — сябра Івана — падказаў, каб папяровых грошай у бежанства не браць, а толькі золата. Угаварыў таксама Якава Лебядзінскага. Пакарыстаўшыся добрай парадай, Якаў закапаў адну палавіну золата на вугле страшаўскай хаты, а другую забраў з сабой.


Анатоль Парэмбскі

Да Саратава даехалі на возе. Цэлае Страшава туды пераехала. У Івана былі тры сястры і пяцёра братоў, з якіх чатырох ваявалі ў той час на фронце. Усе астатнія пасяліліся ў хаце багатых прыволжскіх земляробаў. Разам са сваімі рускімі гаспадарамі апрацоўвалі зямлю, елі і адпачывалі. Кухняй распараджалася найстарэйшая з роду. Гэта яна давала прыказы служанкам што і як варыць, а ўсім астатнім — як жыць. Якаў (Замуленік) Лебядзінскі па натуры імкнуўся да лепшага, таму неўзабаве адправіўся ў яшчэ багацейшы прычарнаморскі Новарасійск. За страшаўскае золата ўзяў у арэнду ад тамтэйшага бацюшкі зямлю і пабудаваў хату. Калі прыйшлі чырвоныя, стаў гаспадаром на ўсю папоўшчыну. Не баяўся ні рэвалюцыі, ні паслярэвалюцыйнага голаду. Ураджаю хапала яму і ўсім новарасійскім бальшавіцкім чыноўнікам. Тамтэйшая бульба розністая ў смаку ад страшаўскай, але чыноўнікам смакавала. Самі яе садзілі, самі капалі. Якаў толькі пасадачны матэрыял даваў.

А яшчэ на ўсё жыццё запамятаў як зараз пасля выбуху рэвалюцыі чырвоныя і белыя разам супрацівіліся англійскаму нашэсцю. Ніводзін англічанін, які прычаліў да чарнаморскага берага, дахаты жывым не вярнуўся.

— Надта патрыятычны народ, — сцвярджае спадар Анатоль.

Быў 1921 год. З бежанства вярнуліся амаль усе. Толькі Надзя, сястра Ульяны — маці спадара Анатоля там засталася. Выйшла замуж за ўкраінца Святальскага, з якім пазнаёміліся ў час вучобы на ўжо камуністычным, маскоўскім універсітэце. Закончыўшы інстытут, Святальскі працаваў надляснічым у Падмаскоўі. Спадар Анатоль асабіста сустрэў Святальскіх у 1939 годзе. Тады, за першых саветаў, цэлай сем'ёй прыехалі яны ў госці. Ульяна ўгаварвала сястру заставацца. Іван паслаў Святальскага на працу ў Валілаўскае надлясніцтва. Усё роўна не хацеў тут застацца. Планы вярнуцца ў Падмаскоўе пакрыжавала Другая сусветная вайна. Прыйшоў загад ісці на працу ў падкобрынскі Дывін. Там пасябраваў з каталіцкім ксяндзом, якому савецкая ўлада не хацела даць дроў на зіму. Калі б не Святальскі, ксёндз напеўна замерз бы.

Ужо пры нямецкай акупацыі да Святальскага прыйшлі польскія падпольшчыкі і сказалі неадкладна пакінуць хату „бо тут будзе Польска, а ты естэсь украінец". Ксёндз не дапамог. Напалоханы Святальскі ўцёк недзе пад Мінск. Усё роўна падпольшчыкі не далі спакою астаўшайся ў Дывіне Надзі. „Нам патрэбны ваш мужык, — сказалі, — калі не паявіцца, забярэм ваша дзіця". Святальскі так і не паявіўся. Яго чатырохгадовую дачку знайшлі ў лесе мёртвай. Пасля гэтага здарэння Надзя з'ехала ў Мастаўляны. Тым часам Святальскі, дзякуючы дапамозе калегі з універсітэта — КГБіста — спакойна дачакаў канца вайны недзе за Уралам.

Якаў — бацька Надзі і Ульяны — быў такім чалавекам, які і ў пекле не згарыць. Хаця добра яму жылося і пры савецкай уладзе, усё роўна тужыў па роднай, страшаўскай печы. З Новарасійска да сваіх у Саратаў дабіраўся на поездзе, далей усе разам вярталіся на возе, тым жа возе і тымі ж конямі, якімі выязджалі ў бежанства. Па дарозе на два тыдні затрымалі іх у Баранавічах на каранцін. Там палякі забралі Якаву ўсё золата, якое вёз з сабою.

Засталося толькі тое, што закапаў за вуглом хаты ў Страшаве.

Ульяна выязджала ў бежанства з дачкой. Мужыка, па прозвішчы Карповіч, забралі на фронт. Прыязджаўшы ў водпуск, нарадзіў яшчэ дзвюх дачок, а потым загінуў на фронце непадалёк сённяшняга Элка. Тры дзяўчынкі Карповічаў памерлі ў 1920 годзе. Ульяна вярталася дахаты нешчаслівай, бяздзетнай удавой. Стары халасцяк Іван Парэмбскі палакоміўся на закапанае пад хатай золата бацькі Ульяны — Якава Лебядзінскага і ўзяў яе замуж. Вось такім чынам купіў ён мастаўлянскі маёнтак Кастуся Каліноўскага.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

1 ☞ працяг

# Кірмаш з Падляшшам у куце

Украіна» ў галіне дарожнага будаўніцтва і аховы здароўя. Мы павінны і далей умацоўваць супрацоўніцтва з Гродзенскай вобласцю, але і Брэсцкай: з самаўрадамі, і заахвочваць прадпрымальнікаў. Наша прадпрыемства «UNIBEP» па-за Мінскам (тут мае пабудаваць чарговы праект — тэнісны цэнтр — М. Х.) мае занятца вялікімі інвестыцыямі таксама ў Гродне. Пра дэталі я не магу гаварыць. Павінна, нарэшце, уступіць у сілу пагадненне аб малым памежным руху паміж Польшчай і Беларуссю. Беларусі ён таксама вельмі патрэбны. У пачатку, аднак, добрай практыкай было б увядзенне магчымасці бязвізавых невялікіх пераходаў на нашай мяжы, як гэта ёсць ужо ў Белавежскай пушчы. Цяпер настаў час для такога пераходу на Аўгустоўскім канале. На кірмаш я запрасіў таксама прадпрымальнікаў. У дадатак да прасоўвання турызму і культуры яны таксама павінны наладзіць супрацоўніцтва.

Некаторых падляшскіх прадпрымальнікаў сустрэлі мы на панэльнай дыскусіі форуму, прысвечанай турызму, але пра гэта ў наступным адрэзку.

## Абачліва аб малым руху

Старшыня аблвыканкама Уладзімір Краўцоў, ацэньваючы ў гутарцы з намі супрацоўніцтва абодвух нашых прыгранічных рэгіёнаў да гэтага часу, сказаў:

— Наша супрацоўніцтва не выглядае дрэнна, але магло б быць больш актыўным. У нас ужо ёсць нямала сумесных прадпрыемстваў на Гродзеншчыне, каля двухсот з польскім капіталам: чыста польскіх і сумесных польска-беларускіх. Усё паказвае на тое, што будзе іх усё больш і больш. Спадзяюся, што такія мерапрыемствы, як гэтыя кірмаш і форум, гэтаму спрыяюць. Некаторыя праблемы ўзнікаюць у нашай юрыдычнай нестыкоўцы. Я спадзяюся, што ў бліжэйшы час будзе ў нас далейшая лібералізацыя ў эканамічнай сферы, у плане падтрымкі прыватных ініцыятыў. Справа ў прасцейшым засноўванні малых і сярэдніх прадпрыемстваў. У гэтых адносінах варта больш цесна супрацоўнічаць уладам нашых краін.

Калі мы спыталіся ў яго пра лёс пагаднення аб малым памежным руху паміж нашымі краінамі, ён сказаў:

— Я заўсёды выступаў за спрашчэнне ўсіх пагранічных бар'ераў. Але і тут трэба думаць абачліва. Паспешлівае яго ўвядзенне можа быць звязана з цэлым шэрагам праблем. Наша памежная інфраструктура не гатовая да магчымага велізарнага патоку асоб, якія будуць перасякаць нашу мяжу пасля ажыццяўлення гэтага пагаднення цяпер. Мабыць, у пачатку неабходна стварыць больш пунктаў спрошчанага перасячэння мяжы для грамадзян, якія пражываюць у пагранічнай зоне, уводзіць нейкія льготы і прэферэнцыі пры перасячэнні мяжы для тых жыхароў, паступова ўводзіць бязвізавы рух.

Дзмітрый Ражкоў, намеснік шэфа адміністрацыі Свабоднай эканамічнай зоны «Гродnaінвест», у якога мы пыталіся пра стан кантактаў яго ўстановы з падляшскімі партнёрамі, сказаў нам:

— У нас ёсць цэлы шэраг праектаў, якія мы хочам разам рэалізаваць. Мы кіруем спецыяльным турыстычным паркам «Аўгустоўскі канал». На беларускім баку водны пагранпераход «Лясная-Рудаўка» гатовы і функцыянуе тут пагрнапераходная кропка. Мы хацелі б, каб быў тут таксама пешаходны пераход, каб і на роварах можна было яго перасякаць. У нас ёсць шэраг пагадненняў з турыстычнымі агенцтвамі Падляшша: з Аўгустова і Беластока, якія гатовыя ў любы момант падтрымаць абслугу такога турпатока на гэтым пераходзе. Рашэнні павінны, аднак, быць прыняты на дзяржаўным узроўні.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## «Маланка» ў Яраславе



Яраслаў — горад на скрыжаванні Усходу і Захаду, распаложаны на рацэ Сан. У сярэднія вякі Яраслаў быў калыскай трох рэлігій і трох культур: польскай, украінскай і габрэйскай. У цяперашні час горад налічвае амаль 40 тысяч жыхароў, мае багатыя традыцыі і шматлікія помнікі.

Яраслаўскі філіял Таварыства сяброў Львова і паўднёва-ўсходніх крэсаў арганізаваў VII Міжнародны фестываль культуры памежжа, які праходзіў 4-11 верасня 2015 года. Асноўнымі арганізатарамі мерапрыемства з'яўляліся: старшыня ТСЛіПУК Альжбета Русінка, бургамістр горада Яраслава, Цэнтр культуры і прамоцыі ў Яраславе і Дом сустрэч гісторыі ў Варшаве. Арганізатары забяспечылі мноства атракцыёнаў і забавы. Падчас сёлетняга выпуску фестывалю можна было назапасіцца здаровымі прадуктамі на кірмашы прадуктаў харчавання і рамёстваў, дзе сваю прадукцыю прадставілі больш за 50 экспанентаў. Можна было пачаставацца і купіць алей з насення рапсу, лёну і іншых раслін, мёд, сыры, мяса, хлеб, сокі, сухафрукты, гародніну і многае іншае. Усё без кансервантаў, хатняе.

Яшчэ адной разыначкай быў сольны канцэрт Галіны Куніцкай, якая нарадзілася ў Львове і з'яўляецца адной з самых папулярных і любімых польскіх спявачак. Можна было слухаць канцэрты Марты Бізонь і Мечыслава Свянціцкага. Адбыліся шматлікія сустрэчы і выставы фатаграфіі і жывапісу.

Разыначкай фестывалю былі канцэрты запрошаных калектываў. Сярод іх былі гурт «Ягелонія» з Грудка-Ягелонскага, гуцульская група «Гогодзы Ганскі», калектыў «Гаверла», фальклорны цыганскі калектыў «Калэ Якга» і калектыў беларускай песні «Маланка» з Бельска-Падляшскага.

Канцэрт аднаго з самых папулярных калектываў, прадстаўляючага беларускую меншасць на Беласточчыне — «Маланка», пачаўся ў нядзелю 6 верасня ў сямнаццатую гадзіну. Калектыў працуе 25 гадоў пры Бельскім доме культуры пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука, былога дырэктара Бельскага дому культуры ў горадзе Бельск-Падляшскі. Больш чым гадзінны канцэрт, які ўключаў песні на беларускай і польскай мовах, вяла Марта Маліноўская з Бельска-Падляшскага. На сцэне прадставілася цэлая каманда, а таксама салісты, дуэты, жаночая і мужчынская групы. Калі толькі «Маланка» выйшла на сцэну, неба праяснілася, а пад самой сцэнай паявілася вялікая група слухачоў, гатовых гуляць. Канцэрт групы з Бельска-Падляшскага атрымаў шмат увагі, што пацвярджае колькасць прададзеных, адразу пасля шоў, кампакт-дыскаў і бісы, якія папрасілі як вядучыя фестываль, як і захопленыя гледачы.

Увесь Міжнародны фестываль культуры памежжа яшчэ раз даказаў, што з'яўляецца прыцягальнай і адметнай падзеяй. Арганізатары фундавалі добрую забаву для задавальнення так гледачоў, як і ўдзельнікаў. Апладысменты, якімі адорылі «Маланку», застануцца надоўга ў памяці членаў калектыву. А песні бельскага вакальнага гурта, спадзяваймася, яшчэ доўга будуць чуцца ў яраслаўскіх хатах.

**Тэкст і фота Лідзіі МАЛІНОЎСКАЙ**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Першакласнікі, першапраходцы!

У Бельску-Падляшскім адкрылі новую школу. Яна знаходзіцца ў будынку па вуліцы Рэйтана, там дзе праваслаўнае прадшколле. Пакуль школа ўяўляе сабой адзін клас. У ім пяць першакласнікаў: Галенка Катэльчук, Ася Свідэрская, Бартак Філіманюк, Арсень Емельянаў, Рафал Мароз. Чатырох з іх гэта шасцігодкі.

— Каліканчаюцца ўрокі, мае вучні не хочуць ісці дахаты, — кажа выхавацелька Ганна Лабаноўская, — ім вельмі падабаецца ў школе.

Нам таксама спадабаўся візіт у новай школе. У актавай зале нас прывітала вялікая ікона асветніцы Еўфрасінні Полацкай. Беларуская святая тут невыпадкова. Усе вучні з першага класа сталі вывучаць беларускую мову. Заняткі, тры ўрокі ў тыдзень, вядзе новая настаўніца Марта Ігнатовіч.

— А я паеду на конкурс песні ў Варшаву, — кажа нам Галенка Катэльчук, — там заспяваю дзве беларускія песні.

Якія? Дзяўчынка выйшла на сярэдзіну класа і адважна праспявала нам «Дзве курачкі» і «Цік-так ходзікі». Адкуль ведае беларускія песні? Навучылася ў прадшколлі.

— Мы хочам, каб нашыя дзеці выраслі ў рэлігійным духу, — кажа дырэктарка школы Анна Віхоўская, — і каб яны ведалі народныя традыцыі. Перад іх школай вялікі выклік. Яны першапраходцы, ім выпала нялёгкая задача. Спачатку трэба расславіць школу і збудаваць яе прэстыж. Школай кіруе Фонд Дамоў праваслаўнай культуры Варшаўска-Бельскай епархіі. Афіцыйная назва ўстановы гучыць так: Непублічная пачатковая школа № 1 св. Архіепіскапа Лукаша Война-Ясянецкага ў Бельску-Падляшскім.

Духоўны апякун школы — святы Рускай і Украінскай Праваслаўных Цэркваў. Ён праславіўся як адважны прапаведнік хрысціянства ў часы СССР. Па прафесіі быў ён лекарам. Гэты выдатны лекар, аўтар навуковых прац па медыцыне, праславіўся міласэрнасцю. Ён нёс лекарскую паслугу самым бедным, пазбаўленым усякіх магчымасцей людзям. Святы спалучае ў сабе мудрасць, адвагу і міласэрнасць, словам, усе тыя якасці, якія павінны быць у прыстойным працэсе навучання і выхавання.

Жадаем Вам поспехаў!

ЗОРКА


Крыстыян Паскробка (справа) і Максім Фіёнік

* * *

Калі мне было шаснаццаць гадоў,
адышоў я з бацькаўскай хаты.
Гадоў трыццаць шукаў свайго месца.
Быў у Амерыцы і ў Германіі.
Вырашыў я адведаць свой дом.
А там ужо няма бацькоў.
Толькі дзве магілы стаяць.
Ажно смерці трэба было,
каб я зразумеў,
што найлепш сябе адчуваю
на родным панадворку.
На Падляшшы.

Крыстыян Паскробка, Гімназія ў Нарве

## УВАГА КОНКУРС! № 38-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 27 верасня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Гальчастыя рогі,
хуткі ногі,
Колер поўсці — залаты.
Хто я — ці ведаеш ты?
А....

Стаіць веліканам
Ён толькі адзін
Сярод агародных
Розных раслін
Жоўтая кветка,
Як сонца кружок
Як вартавы
Ён ля самых варот.
С........

Адказ на загадкі № 32-15: гарох, бурак. Узнагароду, кніжу пра птушак „Dziuplaki”, выйграла Сара Каліноўская. Віншуем!

# Журналістыка больш цікавая

*Размова з **Міхасём Сцепанюком**, кіраўніком рэдакцыі перадач для нацыянальных меншасцей на Радыё Беласток, выпускніком іберыстыкі, шматгадовым удзельнікам Сустрэч „Зоркі”.*

„Шпакоўня”: ***— З якіх праектаў у Шчытах Вы найбольш задаволены?***

**Міхась Сцепанюк:** — Там было многа праектаў, напрыклад праект «Сцяна», але я найбольш задаволены праектам «Дрэва і сакрум». Чаму такая назва? Мы хацелі паказаць прыгожасць драўляных хат, цэркваў і іншых пабудоў, якіх шмат у нас на Падляшшы. Іх яшчэ вельмі многа захавалася, а сёння такіх драўляных будынкаў ужо не будуюць.

**Ш:** ***— Чаму Вы не пакарысталіся прапановай працаваць ва ўніверсітэце?***

**МС:** — Я ўжо добра не памятаю. Спачатку пачаў працаваць на Радыё Рацыя і пісаў для «Нівы». Тады таксама навучаўся іспанскай мове, а цяпер працую на Радыё Беласток. Журналістыка, проста, здалася мне больш цікавай.

**Ш:** ***— Што Вы запамяталі з Сустрэч „Зоркі”?***



**МС:** — Напэўна было многа смешных здарэнняў. Запамяталіся сустрэчы на Кашубах. Тады ўсе спалі ў адным вялікім пакоі. Там немагчыма было спаць, быў такі «армагедон». Настаўнікі некалькі разоў прыходзілі нас супакоіць. Памятаю, што адна асоба гаварыла праз сон. У малым пакоі гэта пачулі б тры асобы. А так усе! Вельмі гэта смяшыла...

**Ш:** ***— Якія Сустрэчы для Вас самыя важныя?***

**МС:** — Іх было шмат. Яны выглядалі як вялікі ланцужок, адно вынікала з другога. Чалавек увесь час чамусьці вучыўся, пазнаваў людзей, развіваўся. Аднак дастацца на Сустрэчы не было лёгка. Трэба было пісаць і паказаць свае поспехі ў пісанні.

**Ш:** ***— Вернемся яшчэ да Шчытоў. Чаму Вы ангажаваліся ў працу гэтага Цэнтра?***

**МС:** — Навокал нас ёсць прыгожая прырода, помнікі архітэктуры, людзі. Іх трэба паказваць і ахоўваць.

**Ш:** ***— Дзякуем за размову!***



Малюнак «Міхась СЦЕПАНЮК» Элізы Матус

## БАЦЬКА І ТРОХ СЫНОЎ

*(руская казка)*

У адной мясціне жыў бацька, у яго былі тры сыны. Аднойчы ён паклікаў іх да сябе і сказаў:

— Я ўжо стары. Цяпер адзін з вас, самы разумны і багаты, павінен кіраваць нашай сям'ёй. Пакажыце мне, сынкі, сваю інтэлігентнасць і багацце!

Найстарэйшы сын паказаў залаты пярсцёнак з брыльянтам і сказаў:

— Вось маё багацце, тата. Багаты чалавек — заўсёды разумнік.

Сярэдні сын надзеў на сябе дарагое адзенне.

— Усе людзі будуць мяне шанаваць у такім строі, — сказаў ён.

Бацька сумна заўсміхнуўся і даў слова наймалодшаму.

— Няма ў мяне залатога пярсцёнка і каштоўнага адзення, — сказаў наймалодшы, — затое ёсць у мяне мудрая галава, смелае сэрца і моцныя рукі. Я не баюся, што мяне хтосьці абкрадзе, абмане або паб'е.

Бацьку спадабаўся адказ наймалодшага сына і ён перадаў яму ўладу ў сям'і. А братам загадаў, каб яго ва ўсім слухалі:

— Бо з вашай мудрасці вялікага толку не атрымаецца, — дадаў.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**

## Вершы Віктара Шведа



### Скарга сабакі

Сустрэліся сабакі
Са скаргай нечаканай:
— Мой сон быў абы-які:
Спаў на блысе скананай.

— Яна ж не дакучала,
Магло быць добрым спанне.
— Блох сотня прыскакала
На мёртвай пахаванне.

### Адказ Гітлеру

Гітлер спытаў свой партрэт:
— Калі не здабудзем свет,
Калі мы вайну прайграем,
Што тады мяне чакае?

Партрэт адказаў на гэта:
— Калі не здабудзеш свету —
Не магу цябе пацешыць:
Мяне здымуць, цябе павесяць.

Вікторыя ГОБЕЦ
Школа ў Міхалове

### Школа

У школу хаджу,
Сшыткі і ўсмешку нашу,
Час на вучобе
і гульнях трачу,
Гэтак жа я люблю!

## Польска-беларуская крыжаванка № 38-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 34:** Рапс, пара, воля, Ас, возера, закон, кадрыля. Воз, проза, лекар, анёл, ара, асіна.

Узнагароды, адукацыйныя гульні пра Сувальскі ландшафтны парк, выйгралі **Сара Скаўронская** і **Міхась Каролька** з Беластока. Віншуем!

Ozdoba, Pająk, Bank, Trzcina, La, Grab, Zadanie, Obora, Chińskie imię, Odnowa, Halo?, Bok, Ural, Kula, Rosa, Bób, Szkoła, Bierz, Si, Ton, Plan, Irena

# Моўная русіфікацыя Беларусі

**Перавага рускай мовы над роднай беларускай ва ўсіх сферах жыцця супярэчыць не толькі Канстытуцыі Беларусі, страта нацыянальнай мовы пагражае незалежнасці краіны. У падрыхтаваным праваабарончым цэнтрам „Вясна" артыкуле — спроба яшчэ раз звярнуцца да моўнага канфлікту і важнасці яго вырашэння.**

Мова як сродак камунікацыі з'яўляецца аб'ядноўваючай прыкметай народу, падмуркам нацыянальнай культуры, нацыянальнай самасвядомасці і яе перадачы нашчадкам. Пакуль жыве мова, жыве народ. Па дадзеных ЮНЭСКА беларуская мова адносіцца да тых моваў, якім пагражае знікненне. І справа тут не ў неспрыяльных культурна-лінгвістычных абставінах альбо натуральнай асіміляцыі. Тое, што адбываецца з беларускай мовай — вынік свядомай дзяржаўнай палітыкі, скіраванай на вынішчэнне роднага слова з усіх сфераў грамадскага жыцця. „Нечуваная ў свеце дзяржаўная моўная дыскрымінацыя беларусаў мае вельмі працяглую гісторыю, якая вымяраецца не дзесяцігоддзямі, а стагоддзямі," — адзначае доктар гістарычных навук Леанід Лыч і дадае, што „гэтак паслядоўна, як у Беларусі, нідзе больш такая дзяржаўная дыскрымінацыя мовы не праводзілася". Калі гаварыць пра сучасны гістарычны этап, то знакавай падзеяй стала прыняцце ў 1990 годзе „Закона аб мовах", які павінен быў спрыяць адраджэнню мовы беларускай нацыі. У 2-м артыкуле закону беларуская мова абвяшчалася адзінай дзяржаўнай у Беларусі, расійская мова кваліфікавалася ў законе як „мова міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР". Увядзенне закону мусіла ажыццяўляцца паступова, на працягу некалькіх гадоў. Пры гэтым ён не рэгламентаваў ужывання моў у неафіцыйных зносінах.

З 1990 па 1995 год беларускамоўных выданняў было надрукавана больш, чым за папярэднія чатыры стагоддзі. У сярэдніх школах у 1994-1995 гадах навучалася па-беларуску ўжо больш за 75% вучняў. Стаўленне да беларускай мовы, як мовы непатрэбнай, неразвітай, неўжытковай, мовы малаадукаваных вясковых сялянаў змянілася. На беларускай мове праводзіліся сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і многіх гарсаветаў, з'яўлялася ўсё большая колькасць афіцыйных дакументаў, паступова пераводзілася справаводства. На беларускай мове загаварылі і дэпутаты, і міністры, і выкладчыкі ВНУ, і выхавацелькі дзіцячых садкоў. У беларускай мовы з'явілася перспектыва паступовага адраджэння і паспяховага развіцця. 15 сакавіка 1994 года першая Канстытуцыя Беларусі абвясціла беларускую мову адзінай дзяржаўнай мовай нашай краіны. Аднак ужо праз год сітуацыя рэзка змянілася. Аляксандр Лукашэнка, абраны ў 1994 годзе першым прэзідэнтам краіны, ініцыюе рэферэндум, у выніку чаго вяртае постсавецкую сімволіку — герб і сцяг, а беларуская мова страчвае статус адзінай дзяржаўнай мовы. Уводзіцца двухмоўе. У 1998 годзе ў „Закон аб мовах" уносяцца такія праўкі, якія дазволілі распачаць татальную русіфікацыю, асабліва ў сферах адукацыі і дзяржаўнага кіравання. Закон дазваляў весці дакументацыю на расейскай мове. Артыкул 26 Закону аб мовах гаворыць: „У Рэспубліцы Беларусь мовамі ў сферы культуры з'яўляецца беларуская і (або) руская мова". Такім чынам былі скасаваныя набыткі незалежнай суверэннай беларускай дзяржавы ў вырашэнні моўнага пытання. Акрамя таго, па меры нарастання канфлікту паміж прэзідэнтам Лукашэнкам і дэмакратычнай супольнасцю краіны, аўтарытарная ідэалогія і прапаганда пераўтварылі беларускую мову з нацыянальнай каштоўнасці ў „апазіцыйную" з'яву, а яе актыўных носьбітаў — у прадстаўнікоў „5-й калоны". Такі падыход тычыўся не толькі грамадска-палітычнага жыцця краіны. У сферы культуры беларуская мова таксама стала прыкметай процістаяння прэзідэнцкай уладзе. На сёння ў Беларусі існуе па два прафесійныя творчыя аб'яднанні ў літаратуры і журналістыцы — афіцыйны і незалежны: Саюз пісьменнікаў Беларусі і Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі саюз журналістаў і Беларуская асацыяцыя журналістаў. Для сябраў незалежных творчых аб'яднанняў стасункі з афіцыйнымі дзяржаўнымі структурамі носяць абмежаваны характар — чыноўнікі адмаўляюцца даваць журналістам каментары альбо не дапускаюць на афіцыйныя паседжанні, пісьменнікі не атрымліваюць дазволу на правядзенне мерапрыемстваў, сустрэч з чытачамі. Практыка забароны канцэртаў, радыё- і тэлеэфіру ў дачыненні да шэрагу беларускамоўных гуртоў і выканаўцаў выкарыстоўвалася ўладамі краіны ў 2004 -2007 гадах і аднавілася ў 2011 годзе. Існавалі нават „чорныя" спісы дзеячаў культуры, згадка пра якіх у дзяржаўных СМІ была непажаданая. У сакавіку 2011 года адзін такі спіс без подпісаў і пячатак стаў вядомы шырокай грамадскасці, яго змясціў у сваім акаўнце супрацоўнік адной з радыёстанцый. Атрымаць „забароненым" музыкам у мясцовых дзяржорганах гастрольнае пасведчанне было малаверагодна, але і запланаваныя канцэрты нярэдка зрываліся. Яшчэ адна прыкмета яўнай русіфікацыі — гэта шыльды, на якіх напісаны назвы вуліц у гарадах.

Да 2010 года ў Беларусі назвы геаграфічных аб'ектаў (абласцей, гарадоў, вёсак, вуліц і г.д.) наогул заканадаўча не рэгуляваліся. Толькі ў Мінску назвы вуліцаў напісаныя па-беларуску, у абласных цэнтрах вонкавае аздабленне вуліц у большасці сваёй рускамоўнае. Калі ж закрануць пытанне гарадской тапанімікі больш глыбока, то тут выяўляецца спадчына перш за ўсё савецкай эпохі. Як прыклад, аналіз „персаніфікаваных" вуліц Гомеля, другога па велічыні горада краіны: 69 вуліц з 209 названыя ў гонар герояў Вялікай Айчыннай Вайны, 50 — рэвалюцыянераў (пры гэтым толькі 22 з іх маюць дачыненне да Гомеля ці Беларусі), 37 — дзеячаў культуры (8 звязаныя з беларускай культурай), 11 — дзеячаў навукі (2 нарадзіліся і працавалі ў Беларусі), 7 — асобы дакастрычніцкай палітычнай ды ваеннай гісторыі (2 мелі дачыненне да Беларусі, але негатыўнае), 7 вуліц носяць імёны міліцыянтаў, якія загінулі пры выкананні службовых абавязкаў, 6 вуліц названыя ў гонар савецкіх лётчыкаў ды касманаўтаў (1 звязаны з гісторыяй Гомеля). У той жа час, дамагчыся належнага ўшанавання памяці сусветна вядомага творцы, Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ў сталіцы грамадскасці так і не ўдалося, нягледзячы на сабраныя 105 тысяч подпісаў грамадзян.




Яшчэ ў 2010 годзе падпісныя лісты за наданне адной з вуліц горада імя беларускага класіка былі перададзены ў Мінгарвыканкам. Але гэта не дало ніякага выніку, бо Васіль Быкаў не падтрымліваў аўтарытарнай ідэалогіі, выступаў супраць палітыкі русіфікацыі ў Беларусі. Аналагічная сітуацыя адбываецца зараз з ушанаваннем памяці Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, наміnanта на Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры. Сёння беларуская мова фактычна выцеснена з грамадскага ўжытку, гэта тычыцца дзяржаўнага кіравання, адукацыі, судавытворчасці, справаводства. І гэта нягледзячы на тое, што па дадзеных перапісаў насельніцтва Беларусі і сёння больш за палову насельніцтва краіны лічыць роднай менавіта беларускую мову. Так, у 1989 годзе роднай беларускую мову назвалі 65,6% насельніцтва краіны, пасля некалькіх гадоў беларусізацыі ў 1999 — ужо 73,7%, а падчас перапісу 2009 года толькі 53% рэспандэнтаў. Асноўным паказчыкам таго, што беларуская мова не з'яўляецца ў поўнай меры дзяржаўнай, а мае дэкаратыўны статус — гэта адсутнасць на ёй законаў і іншых нарматыўных актаў.

Усе Кодэксы ў Беларусі прынятыя на расійскай мове, а паколькі афіцыйнага перакладу на беларускую мову няма, то фармальна суддзі, як і астатнія суб'екты працэсу, не маюць права адвольна перакладаць нормы закона. Такім чынам, адсутнасць законатворчасці на беларускай мове з'яўляецца сур'ёзнай перашкодай для абароны і адстойвання сваіх інтарэсаў для беларускамоўных грамадзян у судзе ды іншых дзяржаўных органах. Так, на праваым партале pravo.by немагчыма знайсці нарматыўна-прававыя акты на дзяржаўнай беларускай мове, рэсурс змяшчае бягучую інфармацыю на рускай і англійскай мовах, а тэксты нарматыўна-прававых актаў і законапраектаў размяшчаюцца на ім выключна на рускай мове. Паводле Беларускага Хельсінкскага камітэта, у эталонным банку прававой інфармацыі каля 200 тысяч заканадаўчых актаў і толькі 3,1% нарматыўнай дакументацыі — на беларускай мове. У 2014 г. Саветам Міністраў прынята 1297 пастаноў, з іх на беларускай мове — толькі 170, што складае 13 %.

У 2014 г. з усіх законаў, прынятых Палатай прадстаўнікоў, на дзяржаўнай беларускай мове былі прыняты толькі 2. Праўленне Нацыянальнага Банка Рэспублікі Беларусь у 2014 г. прыняло толькі 9 пастаноў на беларускай мове. Грамадскія і праваабарончыя арганізацыі неаднаразова звярталіся ў розныя дзяржаўныя ўстановы, каб звярнуць увагу на праблему моўнай дыскрымінацыі. Так, Таварыства беларускай мовы заклікала Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі з 1 верасня 2014 г. усе законы і іншыя нарматыўныя прававыя акты Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь адразу прымаць на дзвюх дзяржаўных мовах, а таксама зрабіць афіцыйны пераклад дзеючых законаў, якія былі прынятыя толькі на рускай мове, на дзяржаўную беларускую мову і апублікаваць іх у прадугледжаным законам парадку.

Юрыдычны эксперт Беларускага Хельсінскага Камітэта Гары Паганяйла ў сваім звароце прасіў Канстытуцыйны суд Беларусі разабрацца з нявызначанасцю рэальнага статусу беларускай мовы, былі прапанаваныя 25 пунктаў, што абгрунтоўваюць неабходнасць выпраўлення ў моўным заканадаўстве прабелаў, выключэння ў ім калізій і прававой нявызначанасці. У сваю чаргу намеснік старшыні ПЦ „Вясна" Валянцін Стэфановіч звяртаўся ў Канстытуцыйны суд Беларусі, а таксама Палату прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі, Вярхоўны суд, Вышэйшы гаспадарчы суд, Савет Міністраў і Адміністрацыю прэзідэнта, якія паводле арт.116 Канстытуцыі маюць права накіроўваць прапановы ў Канстытуцыйны суд аб адпаведнасці законаў нормам Канстытуцыі, з просьбай прызнаць арт. 7. Закона „Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" не адпаведным Канстытуцыі і прапанаваць Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу ўнесці змены ў гэты артыкул, заканадаўча замацаваўшы абавязак дзяржаўных органаў выдаваць усе нарматыўна-прававыя акты (уключаючы тэксты законапраектаў) на дзвюх дзяржаўных мовах — беларускай і рускай. Аднак адказы насілі альбо фіктыўны характар — старшыня Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў Генадзь Пальчык не ўбачыў падставаў для звароту ў Канстытуцыйны суд, альбо проста ўражвалі — начальнік галоўнага дзяржаўна-прававога ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта А.Ф. Мацэльскі прапануе карыстацца перакладам на сайце Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі, а ў Савеце рэспублікі ўпэўнена мяркуюць, што дзяржава мае права выбару, на якой мове выдаваць нарматыўна-прававыя акты. Што тычыцца перакладу, то па інфармацыі начальніка ўпраўлення рэдакцыйна-выдавецкай работы Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі (НЦПІ) Наталлі Судзілоўскай, на сайце прававой сістэмы „Эталон" прадугледжваецца аўтаматычны пераклад законаў на беларускую мову. Аднак гэтыя пераклады не з'яўляюцца афіцыйнымі, у іх шмат памылак і недарэчнасцяў. Да таго ж анлайн сістэма „Эталон" платная. Калі ж у грамадзяніна на гэта сродкаў няма, Наталля Судзілоўская раіць запісацца ў публічную бібліятэку, дзе сэрвісам можна скарыстацца бясплатна.

*(працяг будзе)*

http://spring96.org

Бывае так, што калі ў нейкае застылае асяроддзе трапіць чалавек звонку, новы, ён уносіць у тое асяроддзе і новыя станоўчыя якасці. Размаўляю з ураджэнцам Сакольшчыны **Ежы РАВІНСКІМ**.

# Будаваў і фатаграфаваў Ляўкова

**— Вы родам з Цесніска, што ў Янаўскай гміне...**

— З Малога Цесніска, там было пяць хат, а цяпер то мабыць там больш хат чым людзей. Там недалёка ёсць такія горы, Карпацкія, не Карпаты, толькі Карпацкія, 229 метраў н.у.м. найвышэйшы пункт. Я ў тых гарах, а яны недалёка Цесніска, правёў усё дзяцінства.

**— У школу Вы хадзілі ў Краснае? Там такая драўляная школа стаіць і я быў здзіўлены, што яна цэлая, не нішчаная, як гэта бывае ў іншых мясцовасцях. Будынак зарос, быццам туды ўжо ніхто і не заглядае.**

— Я ў Красным быў два гады таму на вяселлі ўнучкі майго брата. І я тую школу агляную з усіх бакоў. Гэта былі такі сентыментальны ўспамін. І жаль ахоплівае. Мне ў дзіцячых гадах здавалася ўсё такім вялікім, а цяпер здаецца такім малым. І шкада, што будынак трухлее, што няма яму гаспадара. Бо на гэтай тэрыторыі, каля Нараўкі, усе школы добраўпарадкаваны — калі не на святліцу, то на іншыя мэты. А там неяк так не атрымалася. І ў Купліску стаіць падобная драўляная школа.

**— А калі школу ў Красным пабудавалі: да вайны?**

— Да вайны.

**— З таго часу многа змянілася. Вось у Ляўкове няма ўжо тых школьных будынкаў, у якіх я вучыўся. Была „старая” школа, і „новая”, і ўжо іх абедзвюх няма; заміж новай асталася адно прыбудоўка...**

— Ну, я быў у камітэце разбудовы ляўкоўскай школы...

**— Вас многія лічаць летапісцам ляўкоўскай гісторыі. Адкуль у Вас узялося такое зацікаўленне; можа хто з сямейнікаў „падкінуў” Вам такое хобі?**

— Я не з'яўляюся летапісцам. Я падзеі запісваю на здымках...

**— Але адкульсьці такое хобі з'явілася...**

— Я, як вучыўся ў Саколцы ў прафтэхвучылішчы, упершыню спаткаўся з фатаграфіяй. Там дзейнічаў фотакружок і я да яго належаў. І гэтае захапленне не мінае да сённяшніх дзён, я ўсё яго развіваю. Пасля я вучыўся ў Беластоку ў тэхнікуме, трохгадовым пасля прафтэхвучылішча, вечарамі, і там таксама належаў да кружка. Там я нават вёў іншы кружок — для малодшых класаў прафтэхвучылішча — хадзіў я з малодшымі вучнямі па Беластоку і тлумачыў ім, як фатаграфаваць. А калі быў у войску, то ў палку была фоталабараторыя, і я там таксама выконваў здымкі. Пра фільмы я тады толькі чытаў і яны сталі маёй марай. Бо фільм — гэта прадаўжэнне фатаграфіі. Першы фільм здымаў, будучы ў войску ў Скернявіцах у 1967 годзе з калегам ягонай савецкай камерай „Кварц”. У мяне камеры не было, не ставала мне на яе, гэта была мая мара... Калі я апынуўся ў Ляўкове ў камандзіроўцы, дык тут таксама займаўся фатаграфіяй, са Стасем Аляксейчыкам (гл. „Ніва” № 9 ад 1.03. гг.), у якога было падобнае хобі. І цяпер у яго і мяне вялікія архівы, у мяне больш, бо я дакументую ўсе выступы хору „Цаглінкі”, з якім таксама выступаю. У мяне звыш чатырохсот CD-дыскаў ды каля сямідзесяці DVD-дыскаў — гэта многа, будзе каля шасцісот гадзін прагляду. Запісваю ўсё там, дзе бываю — не расстаюся з камерай. Тут, у „Цэраміцы”, мы мелі фоталабараторыю ў бараку; калі будавалі завод, то пры вуліцы стаяў адміністрацыйны барак. Пасля фоталабараторыю перанеслі мы ў памяшканні завода. Вёў я таксама фотакружок у ляўкоўскай школе, для дзяцей. Нават пасылаў дзяцей у старую Луку, каб сфатаграфавалі як яна там тады выглядала. Мае здымкі з будавання завода былі прэзентаваны на выставе ў Гайнаўскім доме культуры, дзе адзначалася саракагоддзе ляўкоўскага керамічнага завода. У саракапяцігоддзе завода выстава была наладжана ў нараўчанскай Галерэі Тамары Саланевіч; я тыя здымкі перадаў Галене Марыёлі Рэент, дырэктарцы Гміннага асяродка культуры ў архіў. Усе важнейшыя падзеі на заводзе там зафіксаваны. На грамадскіх пачатках будавалі мы ляўкоўскую святліцу.


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**— То яе будавалі грамадскім чынам?**

— Так. Камітэт будовы налічваў 18 асоб; я кіраваў тым камітэтам і адначасна, як будаўнік-спецыяліст, наглядаў за ходам пабудовы. І лічу, што грамадства Ляўкова асабліваe, я яго ўсюды, дзе бываю, хвалю. Бо тое пакаленне вельмі гарнулася да ўласных ініцыятыў, пачынаючы, м.інш. з таго будынка, той „ратунды”, якая побач завода. Яна, можа, сёння ўжо непатрэбная, але калісь пры той „ратундзе” ладзіліся надзвычайныя забавы; мы на будову святліцы, гатэліка і пажарнага адсека збіралі на тых забавах грошы. Там на Пятра і Паўла гуляла каля васьмісот асоб! Столькі аднойчы прадалі білетаў, не згадваючы, што некалькі дзясятак увайшло зайцамі — можна вось сабе ўявіць, якія гэта былі зборышчы моладзі. І добра было б, каб нехта спрабаваў апісаць усё гэта: была ж школа, шмат што з гэтай школы загінула, бо ж напэўна была там нейкая хроніка, было шмат розных мерапрыемстваў, шмат паспехаў мела школа — усё гэта недзе зацярушылася. А ляўкоўская святліца магла б быць такім форумам, дзе б можна было паказваць ляўкоўскае мінулае; у святліцы яшчэ ёсць шмат месца. Вядома, гэта патрабуе выдаткаў, мадэрнізацыі, але менавіта там можна было б сабраць усе памяткі ад неардынарнага ляўкоўскага мінулага, у тым ліку і пра сам завод, бо керамічны завод мо не гібее, аднак ён змяняецца, ужо ў яго іншы ўласнік і ён можа зрабіць што захоча. Ён не мусіць захоўваць памятак, яго гэта можа не цікавіць. Таму павінен нехта знайсціся, хто гэта ўсё яшчэ ўловіць і запіша. Бо было многа цікавых падзей, многа цікавых людзей тут правінулася.

**— А я думаў, што гэта ў Вас захоўваецца такі запіс ляўкоўскіх будняў...**

— Не, я запісваю ляўкоўскія падзеі толькі на здымках, а гэта ж не ўсё. Ды не толькі завод — вось, напрыклад, стары іканастас у фондах ляўкоўскай царквы. Трэба было б яго сфатаграфаваць, апісаць — гэтым павінен заняцца нехта, у каго запал да такіх спраў.

**— Мне здаецца, што такія апісанні павінны быць у фондах захавальнікаў помнікаў даўніны — яны павінны такое мець!**

— Магчыма, але я цвёрда перакананы ў тым, што ў Ляўкове павінна паўстаць нешта накшталт мясцовага музея, бо месца для яго ёсць, толькі трэба каб знайшлося некалькі энтузіястаў такой справы. Я быў восем гадоў гмінным радным і не ўдалося мне прасунуць гэтай задумы; і Марыёля таксама кіравала намаганні ў гэтым напрамку. Там жа можна было б сабраць памяткі і са школы, і з Грамадскай рады, бо ўсё гэта прамінае...

**— Ну, так, але дзе гэта ўсё адшукаць?**

— Ну, трэба разглядацца і шукаць. Я, усё, што маю, перадаю Марыёлі, бо бачу, што яна вельмі стараецца зберагчы мясцовыя культурныя каштоўнасці; яна збірае што можа. Гэта выдатная жанчына, якая вядзе высокароднуюкультурную работу. Калі мы адзначалі дваццацігоддзе святліцы, то Марыёля зладзіла ўрачыстасць, на якую былі запрасілі ўсіх членаў таго камітэта, якія яшчэ тады жылі. І была поруч выстава здымкаў і дакументаў, датычных пабудовы.

**— Але каб узяцца за такое збіранне матэрыялаў, трэба знайсці адпаведнага чалавека...**

— І шкада, бо многія людзі, што выконвалі тут істотную работу, паўміралі, напрыклад, Каролька Уладзімір, Саевіч Ян. Вось мы згадвалі пра старую Луку: я быў адправіў тых дзяцей, але без нагляду; яны здымкі выканалі, іх мо з 70. Я ж працаваў і не на ўсё меў час, бо мая праца не абмяжоўвалася да васьмі гадзін. Аднак сёння шкадую, што ўсё-такі замала ангажаваўся. Выправіў я іх, паехалі на веласіпедах і там шчоўкалі ў рамках таго кружка...

**— Кожны чалавек, у прынцыпе, аглядаючыся за сябе разважае і шкадуе, што можна было шмат што зрабіць лепш...**

— У мяне, вось, ёсць здымкі з будовы ляўкоўскага пажарнага дэпо і гатэліка.

**— Калісь каля царквы быў такі будыначак, дзе стаяла пажарная машына...**

— І Ян Адамюк быў камендантам. Цікавы быў гэта чалавек. Ён вельмі ангажаваўся ў грамадскія пачыны, хаця людзі яго не надта паважалі, бо ж ён быў такі, а не іншы, але ён да грамадскай працы ставіўся вельмі станоўча. Мы тут аднойчы сабраліся і гаварылі, каб нейкую святліцу мець, а пажарнікі хацелі мець дэпо. Ён, між іншым, як камендант, пастараўся, што пажарныя ўлады мелі выдаткаваць 90% сродкаў на гэты аб'ект — мела тут узнікнуць святліца і пажарнае дэпо...

**— Так як гэта часта бывае...**

— І мы атрымалі згоду, як камітэт; тады Павільч быў яшчэ начальнікам гміны, яшчэ свежанькім начальнікам. Пасля аказалася, што пажарныя ўлады нічога не дадуць. Тады справу ў свае рукі ўзяў войт; былі ў яго сродкі на гэтую мэту, завод даў бясплатна матэрыялы. А я туды кіраваў часта людзей не ў рамках грамадскіх пачынаў, толькі з прадукцыі кіраваў сем-восем рабочых на будову святліцы. На заводзе тады працавала каля трохсот чалавек, дык не было вялікай праблемай, калі тых сем асоб працавала побач завода, а гэта ў коштах можна было распісаць. Так мы вось пабудавалі святліцу. Былы дырэктар завода Амбражэвіч не верыў, што такі будынак можна паставіць грамадскім чынам. Пасля ён адышоў у Аўгустаў, пасля яго я нейкі час быў дырэктарам, пазней настаў Бандарук і тады канчалі гэтую будову. І ўсё фінансаванне святліцы пераняў войт, а тыя грошы, што мы збіралі, сталі толькі дадаткам да ўсіх коштаў. А хачу дадаць, што ў тым месцы ў 1976 годзе быў праект прыгожага гатэля на звыш 70 асоб; мела там быць 32 двухмесныя пакоі, у падвале мела быць пральня і гаспадарчыя памяшканні, на першым паверсе мелі быць офісныя памяшканні. Меў быць прыгожы будынак, толькі будова не рушыла і нам забралі прадбачаныя на яе сродкі. Затое распачалі мы будову высокага блока і яго завяршылі.

**— А які меў гэта быць гатэль: агульны гатэль ці гатэль для закватаравання рабочых?**

— Для рабочых. У пачатковы перыяд будовы завода, у 1974 годзе на заводзе працавала 375 асоб, а сярэдні іх узрост складаў 21 год. Гэта быў выбух маладосці, маса людзей. Аўтобусы ездзілі навокал і звозілі рабочых на тры змены. А маладыя людзі ўлюбляліся, жаніліся; нехта падлічыў, што я быў дваццаць сёмым, які ўзяў адсюль жонку. Бо я раней будаваў шклозавод у Беластоку, завод прыбораў і дэталяў на Рыжскай, а другога этапу Ляўкова яшчэ не пачыналі. А тут ужо працаваў калега, ён будаваў першы этап Ляўкова, дрэнажнае аддзяленне. І калі ў Беластоку завяршылася будова шклозавода, я тады крыху працаваў у Саколі на будове дзіцячага асяродка і пабачыў, што на будове зусім іншая праца, чым у бюро. Там заўсёды было цікава, заўсёды было нешта новае... Ляўкова будавалася ад 1965 да 1973 года. На будове было цікавей і я не хацеў вяртацца ў бюро пасля Саколя. Я тады крыху працаваў у бюро, кіраўнік Мірaслаўскі кажа мне: калі не хочаш, то пачынаецца другі этап у Ляўкове, а там ужо працуе такі сімпатычны калега, Аляксейчык, ён цікавіцца тым што і ты... І так я прыехаў у Ляўкова.

**— А Вы яшчэ не былі знаёмы з Аляксейчукам?**

— Не; я прыехаў 2 студзеня 1970 года. Меў быць два месяцы, бо думаў яшчэ штудзіраваць. Але так атрымалася, што тыя два месяцы доўжацца да сёння.

**— Можна сказаць, што гэта такія „рускія” месяцы...**

— Я тут спаткаў вельмі сімпатычных людзей. Я ўсё паўтараю, што людзі тут вельмі сімпатычныя і вельмі сумленныя. Бывала, што прыязджалі на будову брыгады з Беластока і яны не ўмелі так салідна працаваць як мясцовыя людзі. Беластоцкія камбінавалі, выбіралі сабе такую працу, каб як найбольш зарабіць. А мясцовыя рабілі ўсё, што ім даручалася. Не заўсёды былі гэта даходныя работы, але працавалі сумленна.

**— Дзякую Вам за гэтыя добрыя словы ў адрас маіх аднасяльчан. Ды не толькі за словы Вам дзякую — дзякую Вам за шляхетную работу, якую Вы для Ляўкова выканалі.**

**Размаўляў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Самародны талент з Дуброўшчыны



Ягоныя працы ўпрыгожваюць краявід Дуброўшчыны — у асноўным гэта постаці святых і каплічкі. Рышард Мыслівец — народны скульптар з вёскі Каменная-Старая — адкрыў у сабе талент разьбяра ў саракагадовым узросце, а пачынаў маючы толькі адно долата.

Дом Рышарда Мысліўца лёгка пазнаць у маляўнічым краявідзе Каменнай-Старой. Невялікі лясок, якім акружана ягоная хата, поўны драўляных фігур. Скульптар не толькі прадстаўляе постаці святых, але таксама мяняе старыя сухія дрэвы ў сапраўдныя шэдэўры.

— Разьбяру толькі ў хворых. Дрэвы трэба шанаваць. Той лясок, у якім жыву, дае мне намнога больш чым для другіх людзей. Прырода гэта, перш за ўсё, інспірацыя, — кажа разьбяр.

Мыслівец — адзін з нямногіх разьбяроў, які свае працы дастасоўвае да кволых дрэў. Гэта часта ад кары, віду дрэва ці месца, у якім яно расце, залежыць, што канчаткова будзе прадстаўляць разьба. У невялікай, ужо спарахнелай сасне можам убачыць двое закаханых у танцы. З іншай разьбы, зробленай у вярбе, спаглядаюць на чалавека твары быццам з даўнейшага паганскага валуна.

Рышард Мыслівец з мастацтвам звязаны ад 20 гадоў. Хаця яго дваюрадныя браты прафесійныя мастакі, ён адкрыў у сябе душу мастака даволі позна. На пачатку хадзіў ён на калонію да суседа, вядомага ўжо ў ваколіцы скульптара. Захапляўся ягонымі працамі, падглядаў нялёгкі працэс стварэння разьбы. Ад яго дастаў першае долата. Калі сусед меў намер з'ехаць на поўдзень Польшчы, Мыслівец ведаў, што гэта апошняя хвіліна, каб пры сваім настаўніку паспрабаваць зрабіць першую працу. Так паўстала Божая Маці, якая да сёння стаіць ва ўпрыгожанай кветкамі каплічцы побач ягонай хаты.

— Гэта мая першая спроба разьбярства. Помню, як узяў я кавалак ліпавага дрэва і не ведаў, ці штосьці атрымаецца, ці ўдасца дабыць з гэтага кавалачка нейкую постаць. Але ад пачатку я ведаў, што хачу разьбярыць святых.

З гадамі спадар Рышард пачаў набываць прафесійныя прылады для разьбы ў дрэве. Да гэтага часу ўсё рабіў адным долатам, што неадноўчы здзіўляла, але і захапляла ягоных сяброў па прафесіі.

— Смяяліся з мяне і гаварылі, што сапраўды я таленавіты, калі змагу адным долатам выразаць нават дэталі ў фігурах. Але мне заўсёды не хапала грошай. Гаспадарка ў мяне невялічкая, а разьбярства толькі што пачынала прыносіць нейкія даходы, — кажа спадар Рышард.

Першыя прафесійныя прылады атрымаў ён ад скульптара, з якім пазнаёміўся ў час аднаго з мастацкіх пленэраў. З таго часу ягоныя працы сталі набываць больш мастацкае аблічча. Мыслівец пачаў разумець, што добра зробленая скульптура патрабуе некалькіх розных долатаў ці ножыкаў. А паколькі разьбярства гэта дарагое хобі, мастак з Каменнай-Старой сам пачаў канструяваць неабходныя прыборы з таго, што было ўжо лішнім.

Рышард Мыслівец разьбярствам займаецца ўжо амаль 20 гадоў. Яго любімы жанр гэта постаці святых і анёлаў. У навакольным лесе можна пабачыць створаную ім крыжовую дарогу, пры якой, дарэчы, у час Вялікага посту моляцца навакольныя вернікі. Аднак Мыслівец не адмаўляецца таксама ад заказаў людзей. Некаторыя заказы бываюць дзівоснымі — цяпер менавіта працуе над выявамі мядзведзя і чарапахі.

Апрача разьбы Рышард Мыслівец адкрыў у сабе яшчэ адзін талент — паэтычны. Дагэтуль, дзякуючы падтрымцы Дуброўскага асяродка культуры, выйшла пяць ягоных зборнікаў паэзіі. Праўда, вершы піша па-польску, хаця штодзень размаўляе на мясцовым дыялекце беларускай мовы.

Сёння створаныя ім каплічкі стаяць амаль у кожнай вёсцы Дуброўшчыны. Ягоныя працы можна ўбачыць у Шушалеве, Каменнай, Асоўцы, Урачынчыне ці Ястрэбнай. Святыя фігуры Рышарда Мысліўца становяцца папулярнымі таксама на Аўгустоўшчыне, скуль прыязджаюць новыя пакупнікі непаўторных фігур святых. Скульптуры Рышарда Мысліўца жывуць сваім жыццём. Яны, знайшоўшы сабе месца ў многіх каплічках, сакралізуюць прастору вёсак. Рэлігійныя скульптуры Мысліўца ўпрыгожваюць не толькі паліцы калекцыянераў народнага мастацтва, але яны, перш за ўсё, патрэбныя мясцовай абшчыне дзеля падкрэслення важных для іх месцаў. Яны працягваюць даўнія функцыі рэлігійных скульптур, якія павінны быць асвечаныя і даваць магчымасць пераказвання праз іх малітваў да Бога. Яны не з'яўляюцца штучнымі творамі, але пасрэднікамі паміж чалавекам і сакрум.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

---

Наталля Гедрановіч

Персанальны сайт мастака

Біяграфія Працы Выставы Прэса Кантакты

**http://gedranovich.by**

Што можа быць цікавага ў звычайным і звыклым для нас краявідзе? Здаецца — нічога, але чамусьці менавіта прырода, навакольнае асяроддзе на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва прыцягвала да сябе ўвагу. Найбольш узнёслыя асобы, што мелі дар малявання, лічылі неабходным увекавечыць пабачаныя дрэвы, кусты і траву ў сваіх малюнках. Магчыма, такія памкненні рухалі і таленавітай мастачкай з Мінска Наталляй Гедрановіч, творы якой можна пабачыць на яе персанальным сайце.

Персанальнае інтэрнэт-прадстаўніцтва Наталлі Гедрановіч месціцца па адрасе **http://gedranovich.by**. Калі цікаўны карыстальнік выйдзе на тую старонку, то перад яго вачыма адкрыецца своеасаблівая карцінная галерэя прац мастачкі. Усе выявы карцін выкананыя ў светлых колерах, таму вельмі ўдала кантрастуюць з карычневым фонам, на якім месціцца. Дарэчы, старонка, на якую трапляе карыстальнік, калі заходзіць на сайт Гедрановіч, — „Працы". З гэтага вынікае, што жанчына разумее — людзям найперш будзе цікава азнаёміцца з вынікамі яе працы, а потым ужо ўласна з ёю. Ну, а на прадстаўленых малюнках мы можам пабачыць не толькі пейзажы, але і нацюрморты, і партрэты, і кампазіцыі.

„Жывапіс Наталлі Гедрановіч грунтуецца на традыцыях рэалістычнай школы, адчувальны таксама ўплыў імпрэсіянізму. Мадэлюючы вобраз рэальнага свету, яна насычае іх тонкім суб'ектыўным светаадчуваннем. Лірычная творчасць мастачкі выклікае тонкія перажыванні, падахвочвае гледача паразважаць пра сутнасць чалавечага існавання. У яе кампазіцыях відавочна асаблівая ўвага да каляровых і фактурных эфектаў. Кожная работа — гэта не толькі адлюстраванне эмацыянальнага ўзрушэння мастачкі ў пэўны непаўторны момант жыцця, але і вынік выразна прадуманай аўтарскай задачы", — так апісваюць творы Гедрановіч карэспандэнтам газеты „Літаратура і мастацтва" Віктарам Кавалёвым, які ў 2012 годзе пабываў на персанальнай выставе мастачкі, што мела назву «На спатканне да ціхае ракі...».

Пра творчасць Наталлі Гедрановіч распавядаецца таксама ў шэрагу артыкулаў і тэлевізійных рэпартажаў, што месцяцца ў рубрыцы „Прэса".

А вось на старонцы „Біяграфія" прадстаўлена храналагічнае апісанне жыцця і творчасці мастачкі. Народжаная ў 1981 годзе ў Мінску, Наталля вучылася ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на аддзяленні станковага жывапісу. З 2011 года з'яўляецца сябрам Беларускага саюза мастакоў, пры тым што ўжо за 10 год да таго стала пастаянна ўдзельніцай беларускіх і міжнародных выстаў.

Дарэчы, выставам з удзелам Наталлі Гедрановіч прысвечана цэлая рубрыка на яе сайце, што носіць адпаведную назву. У гэтай рубрыцы „Выставы" мы можам пабачыць працы, якія мастачка выстаўляла на паказ з 2008 года. Акрамя гэтай магчымасці азнаёміцца з творчасцю Гедрановіч, на сайце прадугледжана опцыя адбору патрэбных для прагляду карцін. На галоўнай старонцы з правага боку месціцца акенцы, дзе можна пазначыць перыяд стварэння малюнка, яго жанр, памер, тэму і іншае, па чым будзе адабрана карціна, якую шукае карыстальнік.

Варта адзначыць, што сайт Наталлі Гедрановіч мае тры моўныя версіі — рускую, беларускую і англійскую. Праўда, усе артыкулы ў „Прэсе" падаюцца толькі на мове арыгінала, а значыць па-беларуску.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

### Здольны нашаніўскі апавядальнік

# 155 гадоў з дня нараджэння Кандрата Лейкі

Пісьменнік Кандрат Лейка нарадзіўся 17 верасня 1860 г. у вёсцы Збочна Слонімскага павета ў беднай сялянскай сям'і Тодара і Тэклі Лейкаў. У сям'і гадаваліся яшчэ тры браты. Бацька часта хварэў, таму былі беднымі. Чытаць Кандрата навучыў яго родны дзядзька Раман. Будучы пісьменнік на ўсё жыццё палюбіў кнігу. Хутка хлопчыка паслалі вучыцца ў Азярніцкае вучылішча. Ён стаў любімым вучнем настаўніка Восіпа Вікторскага. І хоць вучобу ўскладняла хвароба ног, Азярніцкую вучэльню Кандрат скончыў паспяхова. Яго паслалі казённым коштам у Свіслацкую гімназію. Пасля яе сканчэння ў 1879 г. паехаў працаваць настаўнікам у мястэчка Косава. Хутка цяжка захварэе і памрэ яго маці. Пазней Лейка прысвяціць ёй два апавяданні. Удзячны сын паставіў на магіле маці ў Збочне дарагі чыгунны помнік, які захаваўся да сёння.

Пяць гадоў працаваў Лейка настаўнікам у Косаве. Там пачаў пісаць на роднай мове свае першыя вершы. Доктар параіў яму памяняць месца жыцця на цёплы і сухі клімат. У 1884 г. Лейка пераехаў у Харкаўскую вобласць. Працаваў настаўнікам у Ліпіўскім вучылішчы, потым пераведзены ў Аснавянскае. Пазней яго прызначылі дырэктарам вучэльні для сляпых дзяцей у Харкаве. Лейка распрацаваў для іх адмысловыя праграмы. Працуючы, прайшоў спецыяльныя курсы ў Пецярбургу, а таксама слухаў лекцыі ў Харкаўскім універсітэце. Часта друкаваў артыкулы на педагагічныя тэмы. Лейка не забываў і пра родную мову, пісаў паэтычныя творы, прысвечаныя птушкам, хатнім жывёлам, сатырычныя вершы. У студзені 1905 г. Лейку звольнілі за „вальнадумства".

Пасля Кандрат Лейка пэўны час працаваў выкладчыкам рускай мовы ў Елізаветградскім камерцыйным вучылішчы, а пасля ў адной з прыватных жаночых гімназій. У 1911 г. пераязджае ў горад Валкі Харкаўскай губерні і ўладкоўваецца на працу ў павятовае ведамства. Гэта быў дастаткова плённы ў працы час. Аднак у час родаў памерла ягоная жонка. Дактары ўратавалі толькі сына Віталя, якога на выхаванне забрала на Палтаўшчыну родная сястра жонкі.

У Валках Кандрат Лейка наладжвае шчыльныя сувязі з бацькаўшчынай. Ён перапісваецца з беларускімі дзеячамі і літаратарамі, а таксама з рэдакцыямі беларускіх газет і часопісаў. Шмат піша і перакладае з украінскай мовы на беларускую. Свае творы дасылае ў Вільню, а з кастрычніка 1911 г. друкуецца ў „Нашай ніве", „Беларускім календары на 1916 год", „Гомане", „Беларускай думцы", „Нашай думцы". Максім Гарэцкі так напісаў пра яго: „Надта здольны нашаніўскі апавядальнік". У 1912 г. у Вільні асобнай кніжачкай выходзіць п'еса Лейкі для дзяцей „Снатворны мак", якая паклала пачатак беларускай нацыянальнай драматургіі для дзяцей.

У 1918 г. з-за даўняй хваробы Лейку спаралізавала, пляменнікі перавезлі яго ў горад Здалбунаў на Валынь да роднага брата Івана. Апошнія тры гады ў Здалбунаве жыў ён за кошт дапамогі сяброў з Беларусі і Беларускага камітэта ў Варшаве. Перад смерцю ён паспеў паслаць у Беларускае навуковае таварыства восем сшыткаў сваіх твораў з надзеяй выдаць іх асобнаю кнігаю пад загалоўкам „Засеўкі", але яна так і не выйшла. Пісьменнік памёр у верасні 1921 г. у Здалбунаве на Украіне, дзе і пахаваны. Магілу з жалезным крыжам і надпісам па-ўкраінску адшукаў слонімскі краязнавец Сяргей Чыгрын. Ён жа сабраў амаль усю творчую спадчыну пад адну вокладку і выдаў асобнай кніжачкай пад загалоўкам „Пан Трудоўскі".

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Беларускі фэст у Ляўкове

Беларускія песні плылі па вёсцы Старое Ляўкова Гайнаўскага павета ў апошнюю сёлетнюю жнівеньскую суботу. Войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч арганізаваў у тамашнім амфітэатры беларускі народны фэст. Быў ён апошні сёлета ў гміне. На сцэне выступілі мастацкія калектывы „Шчырыя сэрцы” і „Забава” з Пружан (Беларусь), „Цаглінкі” са Старога Ляўкова ды „Лідар”, „Зорка” і „ЮБМ” з Беластока.

Культурна-асветніцкія работніцы са стараляўкоўскай святліцы арганізавалі фантавую латарэю. Можна было выйграць, між іншым, прыгожыя керамічныя вырабы мясцовых дзяцей і моладзі.

Надвор'е было цёплае, сонечнае. Прыемна і весела было паслухаць мілагучных беларускіх, рускіх, украінскіх і польскіх песень. Былі пары маладых юнакоў і дзяўчат, якія танчылі перад сцэнай.

У перапынку паміж выступамі калектываў свае вершы прачытаў Тадэвуш Кунцэвіч, паэт з Лешукоў.

Вечарам былі танцы пад гукі аркестра „Вясна” з Беластока. Моладзь добра загуляла.

Варта дадаць, што ў будучым годзе фэст адбудзецца 12 ліпеня, у дзень прыхадскога свята Пятра і Паўла.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы

Сярод жыхароў Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) ёсць шмат гаспадароў, якія больш чым іншыя сяляне дбаюць пра свае гаспадаркі, пра вялікі парадак на сваім панадворку і пра свае сельскагаспадарчыя машыны ды пра прыдамашнія кветкавыя агародчыкі і агароды з агароднінай, у тым ліку з дагэтуль малавядомай.

Сёлета ў конкурсе „Найпрыгажэйшыя вясковыя сядзібы ў 2015 годзе ў Нараўчанскай гміне” ўдзельнічалі гаспадары з сямі вёсак. У катэгорыі „сялянская сядзіба” першае месца заняла Зіна Раманчук — жыхарка Альхоўкі (яна і ў мінулым годзе заваявала першынство) і другое месца — Анатоль Матысюк з Семяноўкі.

У катэгорыі „прыдамашнія кветкавыя агародчыкі і панадворкі каля дома” першае месца заняў Яўген Рэент са Скупава (у мінулым годзе ён меў трэцяе месца), а другое раўнапраўнае месца занялі: Юрый Равінскі са Старога Ляўкова (у мінулым годзе ён і яго жонка Яўгенія былі ўзнагароджаны першым месцам), Галіна Вяжхоўская з Заблотчыны і Багдан Стульгіс з Нараўкі. Трэцяе месца заняла Галіна Бірыцкая з Плянты.

Варта дадаць, што конкурсная камісія ад Гміннай рады намерана ў наступным годзе ўвесці яшчэ адну катэгорыю — „найпрыгажэйшыя агратурыстычныя кватэры ў Нараўчанскай гміне”.

**(яц)**

# Міхалоўскія інвестыцыі

Зараз у Міхалоўскай гміне (Беластоцкі павет) заканчваюць пабудову ваяводскай дарогі № 686 на адрэзку з Жэдні ў Юшкаў Груд цераз Міхалова (па вуліцы Беластоцкай). Пачалі яе мадэрнізаваць у мінулым годзе і працы вялі ўсю лёгкую зіму. Новая дарога пайшла побач вёскі Новая Воля. Гэтая дарожная інвестыцыя вельмі цешыць вадзіцеляў аўтамашын.

Цяпер завяршаюць пабудову спортпляцоўкі пры Комплексе школ у Міхалове (па вуліцы Лясной), вуліц Вырубы і Вярбовай у Міхалове, водаправоднай сеткі ў Міхалове-калёніі, а таксама пабудову вуліцы ў вёсцы Ціванюкі.

Запланавалі разбудову санітарнай сеткі на вуліцах Сасновай, Яваровай і Фабрычнай у Міхалове ды санітарнай сеткі ў вялікай вёсцы Новая Воля. Будуць яшчэ перабудоўваць масты цераз рачулкі ў Саколі і ў Пяньках. На ўсе гэтыя інвестыцыі рыхтуюць праектную дакументацыю.

**(яц)**

# Новыя дошкі аб'яў

Зараз у Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) дошкі аб'яў у кожнай вёсцы. Усе драўляныя, з дашкам, прыгожыя. У вёсках, дзе сто і больш дамоў, паставілі іх дзве, а то і тры. Апошнім часам новыя дошкі прывезлі ў Нараўку, Новае Ляўкова, Плянту і ў прысёлак Хаміное.

Дагэтуль у Новым Ляўкове былі тры дошкі аб'яў (трэцюю прывезлі сёлетняй вясной), а цяпер ёсць іх чатыры. 15 ліпеня гэтага года па ініцыятыве солтыса дошку аб'яў з дашкам зрабілі самі жыхары калёніі Новага Ляўкова Аляксандр і Віталь Скепкі.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

**Аб'явамі на новай дошцы пацікавіліся Эва Дзеніс і Галіна Скепка, якія жывуць на калёніі Новага Ляўкова, ва ўрочышчы Лісіны Норы**

# Адгаданка

1. забава цацкамі, мячом, 2. усярэдзіне свечкі, 3. маладое пакаленне, 4. ліпкае рэчыва для змацоўвання рэчаў, 5. грыгарыянскі або юліянскі, 6. першая асоба асабовага займенніка множнага ліку, 7. турэцкі буржуазна-нацыянальны рух пад кіраўніцтвам Кемаля Атацюрка, 8. самаўрадавая ўстанова, 9. наўмыснае скрыўленне твару, 10. вялікі скрутак, напрыклад саломы.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | 2 | | | | | |
| | | | 3 | | | | | 4 | | |
| 5 | | 6 | | | | | 7 | 8 | | 9 |
| | | | | 10 | | | | | | |
| | | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 35 нумара**

Борць, века, гаўбіца, дзяды, Леда, мода, сі.

Рашэнне: **Добрае дзіця бацькоў мыслі адгадвае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Юстыне Іванюк** з Гайнаўкі і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў

# 20.09 — 26.09

**(22.03. — 20.04.)** Не бярыся за справы, у якіх адчуваеш сябе не вельмі ўпэўнена, бо з 24.09. (да 28.09.) чакае цябе няўдача або нават параза. Раздражняючых спраў не падмятай пад дыван, бо і так нявыгадныя факты і праўда выйдуць на святло. Калі ты самотны, пачні інтэнсіўна шукаць новых знаёмстаў — маеш шанц сустрэць кагосьці, з кім на доўгі час звяжаш свой лёс. Можаш здабыць падтрмымку асобы, ад якой такога не спадзяешся.

**(21.04. — 21.05.)** 21-25.09. здольнасць трапнага адгадвання думакі дзеянняў іншых і пераконвання да сваіх рацый. Кожны выклік кончыцца поспехам. 25, 26.09. можаш сустрэць кагосьці, хто схоча цябе падпарадкаваць сабе; бараніся як дасі рады, каб пасля не шкадаваць. Выйдуць наверх даўнія справы і трэба будзе ўзяцца за не вельмі выгадныя дзеянні; можаш разлічваць на сяброў. На бяссонніцу пі зёлкі.

**(22.05. — 22.06.)** Прысвяці больш увагі і часу блізкім. Калі ў апошні час ты не вельмі з імі дагаворваўся, маеш шанц гэта змяніць. Другая палова верасня — добры час на ўсялякія хірургічныя аперацыі. Можаш паправіць выгляд цела — ідзі на дыету. 23-27.09. не дай сябе абдурыць.

**(23.06. — 23.07.)** З 25.09. добры час на любоўныя сустрэчы, у чарговы раз зачаруеш блізкую асобу або закрунеш у галаве школьнаму каханню; магчымыя блізкія шлюбныя планы! 21-25.09. знойдзеш сэнсоўныя аргументы і пераканаеш найбліжэйшых да сваіх рацый; кампраміс — як рукой падаць. Удасца сфіналізаваць нейкую добрую здзелку.

**(24.07. — 23.08.)** Цяжкасці працы асалодзіць табе пахвала шэфа. Знаёмствы, якія цяпер наладзіш, працягнуцца доўга. Але не адразу давярай новапазнанай асобе; хтосьці цябе параніць. Можаш наблізіцца да собы, якая дагэтуль не выклікала ў цябе сімпатыі. Еж рэгулярна. Калі паявяцца праблемы са шчытавідкай або жыватом, хутка пры да лекара.

**(24.08. — 23.09.)** 23-27.09. хтосьці схоча выкарыстаць твой запал для сваіх мэтаў. З 25.09. будзеш самаўпэўнены — гэта добры момант на прафарсіраванне сваіх задум. Дома можа быць нялёгкі запальны момант з 24.09. (да 28.09.), асабліва з бацькамі. Абмінай здалёк супярэчныя тэмы. Схочацца табе папрамаваць сваю асобу, што наабавязова перакладзецца на прафесійны поспех. Перамогі трэба яшчэ пачакаць!

**(24.09. — 23.10.)** 21-25.09. прачнуцца ў табе творчыя здольнасці; аформіш кожную справу патрабуючую кантактаў з людзьмі. Выдатны час на наладжванне новых знаёмстваў. Не кідай слоў на вецер у пачуццях. Вераснёвыя любоўныя рандэву будуць проста мілыя. З 23.09. (да 27.09.) не нагавары лішняга, не папсуй стасункаў са сваякамі.

**(24.10. — 22.11.)** Закончы незадавальняючую цябе рэляцыю. Штосьці асаблівае можа спалучыць цябе са Стральцом і Львом. Дзеву не задаволіш абы-чым. Вадалей паможа табе, але не дарма. З 24.09. будзе цябе асабліва раздражняць непунктуальнасць, несумленнасць і неахайнасць. Чытай тое што дробна напісанае пад дамовамі. З 23 (да 27.09.) няхоцькі не зрабі некалькіх нязручнасцей, не ўключыся ў скандал са сваякамі ці суседзямі; пільнуйся ад злодзеяў.

**(23.11. — 22.12.)** 23-27.09. пераканаешся, хто быў у адносінах да цябе нелаяльным. Прымяняй натуральную медыцыну. Вельмі пільнуй сваё горла і насавыя пазухі, магчымыя закажэнні і запаленні (асабліва 24-28.09.) Рэальна глядзі на новых знаёмых.

**(23.12. — 20.01.)** 21-25.09. прыйдуць да цябе цудоўныя прапановы. Добра разбярэшся ў найбольш складаных сітуацыях. З 24.09. магчымыя фрустрацыі — пераканаешся, што некаторыя справы трэба закончыць. Але дома пад канец тыдня чакаюць цябе змены на якія ты негатовы, вернуцца справы з мінулага, выгляне на свет нейкі нявыгадны сакрэт. З 23.09. будзеш сварлівы; не даводзь да канфліктаў асабліва на рабоце.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш улюбчывы! Сімпатыя атачэння. Удасца табе зрабіць такое, што ашарашыць іншых (на плюс!). Але папсуецца табе настрой і зменшацца сілы; не пабуджайся кавай ці моцнай гарбатай, а натуральнымі сродкамі з магніем і каліем. Не пачынай трэніровак ці іншых высілкавых спортаў.

**(20.02. — 21.03.)** У апошняй дэкадзе зоркі прадбачваюць у цябе нейкія цяжкія эмоцыі ў сувязі з далейшай раднёй. Калі ты ў складаных адносінах, тэстам будзе час паміж 24-28.09. Да 23. будзеш у ненайлепшым настроі. Пільнуй правільнай дазіроўкі лякарстваў. Калі мусіш ісці на аперацыю, зрабі гэта 21-25.09. Можаш таксама папарадкаваць фінансы і гаспадарку; інвестыцыя можа прынесці неблагі прыбытак, але і страты — будзь вельмі разважлівым.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.



# У палескай глыбінцы (14)

Нідзе ў свеце, як на Палессі, так ласкава не кажуць пра вясновыя паводкі. У іх гонар спяваюць песні і пішуць вершы народныя паэты: „Паводка вясну аздабляе, блакітнай прасторай хваль, лодку ласкава калыша, нясе ў жыцця віры"*.

Ніхто, як паляшук, так чароўна не абласкавіць стыхію! Ён праспявае ёй песні, прынясе дары і на канец запражэ яе ў сваю службу. Стагоддзі жыцця на вадзе прымусілі людзей уважліва чытаць настрой рэчак і азёр. Па сённяшні дзень існуе шмат павер'яў і магічных практык, звязаных з ачышчальнай сілай вады. У народзе вераць у жывую ваду. Раздабыць яе можа кожны, хто не правароніць аднаго моманту. Палешукі лічаць жывой вадой першыя кроплі дажджу, якія падаюць з першым вясновым громам. Такая вада дапамагае на боль галавы, ёю прамываюць хворыя вочы і мочаць у ёй барадаўкі. Існуе перакананне, што калі пакупацца ў жывой вадзе, увесь год будзе спрыяць здароўе. Падобныя якасці мае яшчэ купальская вада. Тут таксама важны адзін момант. Лячэбныя якасці купальская вада стрымлівае толькі да ўсходу сонца...

Каб задобрыць вадзяную стыхію, асабліва пры паводках, людзі прыносілі ёй ахвяры, сярод якіх — самае вялікае смакоцце палешукоў — хлеб! Я сама ехала з пустымі рукамі да вытокаў Прыпяці. Гэта было месца, на першы погляд, пазбаўленае ўсякай магіі. Звычайны меліярацыйны роў, парослы прамысловай травой.

* * *

— Ці ёсць якісь пачатак рэчкі? — думае ўголас дзядзька Анатоль з Любоміля. — Цяпер ёсць, а калісь не было...

Мой субяседнік бездапаможна развёў рукамі. Сказаў штось, чаго чалавек звонку не зразумее. Як гэта магчыма?

— Бо там было вялікае балота — чую ў адказ, — і многа ўсякіх ручаёў. Адны цяклі цэлы год, другія толькі ўвесну, калі адліга. За савецкіх гадоў правялі меліярацыю і воды сагналі ў некалькі равоў, адзін з іх лічаць Прыпяццю. Зараз ён, як страла, цячэ дзесьці ажно за Ратна.

Палешукі вельмі камерна ўспрымаюць прастору. Іх цэлы свет зводзіцца да сяла, навакольнага лесу і балота. Усё іншае — чужына! Анатоль таксама вызначыў межы адной з найбольшых рэк у Еўропе толькі за межы суседняга раёна, дзе мястэчка Ратна. Каб не пусціць мяне з пустымі рукамі, ён паспрабаваў патлумачыць назву ракі.

— Назоў нібыта ад таго, што з пяці ручаёў Прыпяць выплывае. Ці гэта праўда — не лічыў!

Ён сам, хоць мільён разоў ездзіў у Шацк, ніколі не спыніўся ля ракі. Чаму?

— Няма там на што глядзець, — махнуў знеахвочаны рукой.

Раней у Свіцязі не ведалі што непадалёк іх сяла выплывае славутая Прыпяць.

— Для нас гэта было балота, — кажа цётка Вера. — Усё лета траву для кароў касілі.

У памяці Веры застрагла разучая асака, якую мужчыны касілі ў вадзе. Задачай жанчын і дзяцей было пазбіраць сцяблінь, згарнуць іх у плахту і вынесці на плячах на сухі грудок. Каб высахла. Там сена складалі ў стог. Прывозілі яго дамоў зімой, звычайна ў перыяд крашчэнскіх маразоў (якія прыходзяць прыблізна 19 студзеня, на *Крашчэнне*), калі замярзае балота і можна туды даехаць з канём з санкамі.

— А вашы каровы ядуць асаку? — здзівілася я. Падляшскі дабытак, то-бок каровы, коні і авечкі, не хацелі яе есці. Рызуху звычайна пакідалі на лузе, каб сабе зжавела і ссохла, а пасля згніла.

— Елі, бо не было іншай травы, — кажа Вера. — Галодны дабытак нават старую страху з трысняту з'есць.

Вера прыгадала адно здарэнне. Нядаўна наведала іх рэпатрыянтка, якая пасля вайны з'ехала ў Польшчу. З роднай старонкі яна запамятала сенакос на балоце. Першае пытанне, якое паставіла, гучала так: *А ці ёсць яшчэ ў вас рызуха?* Гэтая балотная трава ўрэзалася ў памяць палескіх жанчын як сімвал адсталасці ад свету і бяды.

— На шчасце балота даўно асушылі, — кажа Вера. — Зараз там нармальная трава.

* * *

Я падалася да вытокаў Прыпяці ў спякотны летні дзень. Тэрмометр паказваў 33 градусы цяпла. Усё жывое хавалася ў цень, лезла ў вадаёмы, азёры. Рэчка, у параўнанні з вясновай плынню, зараз напамінала паросль травой равок. Набярэжнай, па простай як страла гравійцы, пёрся стары «Запарожац», уздымаючы за сабой жоўтыя хмары пылу. Берагі Прыпяці, быццам дарога, былі абсаджаны бярэзінай. За ёй слаліся няскошаныя лугі, перапканыя бярэзінай і вербалозам. Я схадзіла на луг. Ад асакі след прапаў. Усюды парастала няскошаная прамысловая трава. Даліна, нягледзячы на працяглую засуху, стрымлівала здаровую вільготнасць і пасля Свіцязьскіх пяскоў напамінала аазіс.

На месцы, нечакана для сябе, я раскрыла адну цікавіну. Балоты, адкуль выплывала Прыпяць, напаміналі фрагмент падляшскага ландшафту, а больш дакладна наваколле Белавежскай пушчы. Разам з краявідам прамаўлялі неславянскія, верагодна угра-фінскія назвы навакольных азёр і вёсак. Вытокі ракі прыпісаныя да канкрэтнага месца. Яны знаходзяцца кіламетр ад сяла Гладзін, на вышыні 168 метраў над узроўнем мора. Маю ўвагу звярнуў тапонім Полапы, якія таксама прылягалі да крыніц «палескай Амазонкі». Значэнне гэтага слова ведае кожны падляшук — *полап*, гэта столь, верх хаты. Першы адрэзак ракі ідзе праз Прыпяцкую нізіну цягам 204 км па Украіне. Чарговыя 500 км праплывае ў Беларусі, адкуль зноў вяртаецца ва Украіну і цячэ 57 км, каб уліцца ў Кіеўскае вадасховішча. Па дарозе прымае такія рэкі як (з правага боку) Стаход, Весялуха, Стыр, Прыпятка, Гарынь, Сцьвіга, Убарць, Скалодзіна, Буклёўка, Тур, Славечна; левыя прытокі гэта Піна, Ясельда, Бобрык 1-ы, Цна, Лань, Случ, Скрыпіца, Бобрык 2-і, Пціч, Трэмля, Іпа, Ненач, Закованка, Тур'я. У пачатку ракa мае 1,5 -3 метры шырыні, у канцы 4000-4500 метраў. Для тубылцаў, заселеных у балотных вытоках Прыпяці, гэты маштаб і веліч Прыпяці яшчэ адносна нядаўна явіўся тайнай з памежжа магіі.



Ля вытокаў Прыпяці



* * *

Менавіта вытокі рэк і крыніцы нярэдка лічылі лячэбнай вадой. Яе моц ставілі ў залежнасць ад пары дня і года. Каб вада мела лячэбныя якасці, яе трэба было набіраць у першую палову года, звычайна ад Крашчэння па Купалле, абавязкова ў першую палову дня. Таксама глядзелі на расу — ранішнюю лічылі гаючай, вечаровую шкоднай. Пасля Іліі (2 жніўня) ваду лічылі мёртвай і шкоднай для здароўя. Ад гэтага часу забаранялі купацца ў азёрах і рэчках. Народныя прыкметы, звязаныя з вадой, скарысталa хрысціянства. Сёння на Палессі мала дзе збіраюць жывую ваду з першага грому, затое паважаюць ваду асвечаную на Крашчэнне, Стрэчанне і Благавешчанне. Ёю кропяць людзей, забудовы, дабытак, палі...

Цягам апошняга лета, у час працяглай засухі, у кожнай царкве адбываўся малебен за дождж...

— Мы ўжо не ведаем да якіх святых чытаць акафісты, — наракае Люба. — Людзі плачуць, баяцца голаду. Найбольш шкада кароў. З-за засухі мала хто загатовіў сена на зіму. І як тут дабытак захаваць.

Палешукі, хоць ездзяць на машынах і маюць мабілкі ў кішэні, найбольшым сваім багаццем далей лічаць статкі кароў...

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

* З альманаха літаратараў і мастакоў Высоцкай сялянскай рады. «На крылах слова» — Высоцк 2005 г. пераклад з украінскай Г.К.

ISSN 0546-1960